ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 43 (2601)

29 кастрычніка 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 2000 рублёў.

## ЗАПОМНІЦЕ ГЭТА ІМЯ



— Скажы, Ян, а дзед, будзь ён сёння жывы, напэўна, быў бы бязмерна рады твайму поспеху? Усцешыўся б да слёз?

— Яшчэ як быў бы задаволены!..

— Ты любіў свайго дзядулю...

— Вельмі! Моцна любіў!

— З якімі думкамі ты ехаў на гэты конкурс і з якімі пачуццямі вяртаўся ў Мінск?

— Ехаў з надзеяй і жаданнем заняць нейкае месца, але каб першае... не, пра гэта і не марылася. Хацеў кімсьці стаць... Вядома, да конкурсу рыхтаваўся доўга і сур'ёзна, многа працаваў. Ведаў, што я нечага варты, але каб здарылася такое... А вяртаўся дадому ўжо іншым чалавекам — упэўненым у сабе, у сваіх сілах.

— Як лічыш, каму ты абавязаны лаўрамі пераможцы?

— Ну, канешне ж, найперш свайму вучылішчу, майму педагогу Уладзіміру Белышаву, а таксама і цяперашняму майму настаўніку, вядомаму гітарысту і кампазітару Валерыю Жывалеўскаму. У яго я цяпер вучуся. Ён дапамог мне "зрабіць" канцэрт Віла Лобаса, з якім я ўдала выступіў у Тыхах.

Такое бліц-інтэрв'ю атрымалася ў мяне з Янам Скрыганам адразу ж пасля яго вяртання з VII Міжнароднага фестывалю ў польскім горадзе Тыхы, непадалёк ад Катовіц. У рамках фестывалю адбыўся міжнародны конкурс гітарыстаў імя Яна Эдмунда Юркоўскага. На ім Ян Скрыган, надзелены ад Бога талентам гітарыста, сёлетні выпускнік Мінскага музычнага вучылішча імя Глінкі, а цяпер ужо студэнт Беларускай акадэміі музыкі, заняў першае месца.

Сапернікі ў Яна, па яго словах, былі вельмі моцныя, а конкурс прадстаўнічым, і першыя два туры ніхто не прадракаў маладому беларусу такога поспеху. Журы, бадай што, рабіла стаўку на паляка. Але той заняў другое месца.

Калі адгучалі апошнія акорды канцэрта Віла Лобаса, які на трэцім туры Ян іграў з сімфанічным аркестрам, зала захліснулася воплескамі. Нечуванае: і слухачы, і журы віталі канкурсанта стоячы. Апладысменты не сціхалі доўга.

Так шырокаму свету стаў вядомы яшчэ адзін таленавіты беларус. Запомніце гэта імя, бо вы яшчэ сустрэнецеся з ім і будзеце зачараваныя гукамі яго гітары, — Ян Скрыган. Унук вядомага беларускага пісьменніка Яна Скрыгана.

**Ян ГІЛУЦЭВІЧ.**

КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

## І СНІЛІСЯ ЯМУ ДНІ ЗАЛАТЫЯ

У ЖНІВЕНЬСКІМ нумары часопіса "Полымя" за сёлетні год змешчаны артыкул Міколы Мішчанчука "Любіць Радзіму". Прысвечаны ён творчасці таленавітага і малавядомага на Беларусі паэта Уладзіміра Клішэвіча.

М. Мішчанчук са спагадай і разуменнем, без зададзенай прадузятасці ўпершыню робіць даволі грунтоўны аналіз літаратурнай спадчыны паэта. Аўтар адчуў мукі спакутаванай душы, трагічнасць лёсу і бязмерную любоў да Бацькаўшчыны, якую У. Клішэвіч пранёс праз усё жыццё. Творчасць Н. Арсенневай, А. Салаўя, М. Равенскага, М. Забэйды-Суміцкага і дзесяткаў іншых дзеячаў беларускай культуры ў замежжы ўзбагацілі духоўную спадчыну беларускага народа. Сваю нішу сярод іх заняла творчасць Уладзіміра Клішэвіча.

З'яўленне артыкула М. Мішчанчука ўсцешыла даўніх супрацоўнікаў "Голасу Радзімы", якія ў канцы 60-х гадоў упершыню сустрэліся з Уладзімірам Клішэвічам. Менавіта тады, думаю, не без страху, ваганняў і сумненняў рашыўся і прыехаў ён у Мінск. Жывучы ў Лос-Анджэлесе, У. Клішэвіч рэгулярна пісаў у рэдакцыю пісьмы і ў канверт разам з пісьмом часта ўкладваў вершы. Мы іх друкавалі ў "Голасе Радзімы". А калі сустрэліся з паэтам, узнікла думка ў "Бібліятэчцы "Голасу Радзімы" выдаць яго зборнік.

Можна лічыць каштоўным набыткам нашага часу, што сёння М. Мішчанчук меў магчымасць даволі поўна прадставіць паэзію такога паэта, як У. Клішэвіч, прааналізаваць яго вершы са зборніка "Песняры Случчыны", выдадзенага ў час другой сусветнай вайны. Мы такой магчымасці не мелі, зборніка ў вочы не бачылі. Але каб і бачылі... Ведалі ж толькі тыя творы, якія прадстаўляў аўтар, датамі яны пазначаны не былі. "Падрыхтоўка" да друку зборніка "Сняцца дні мне залатыя" працягвалася два гады. Без дазволу аддзела прапаганды ЦК ён не мог быць выдадзены, а там моцна сумняваліся, ці варта выдаваць вершы паэта са спрэчным мінулым, у якіх да таго ж ні кроплі аптымізму, любоў да Радзімы тужлівая, пакутлівая і не канструктыўная, няма апявання сацыялістычнай рэчаіснасці. Няцяжка здагадацца, як у зборніку з'явілася кан'юнктурная, слабая з мастацкага боку паэма "Шлях у светлае". Так, гэта быў кампраміс, разумеў аўтар, разумелі ў рэдакцыі, што без такога "Шляху" шляху зборніку не будзе. Калі ж вершы былі дапоўнены паэмай, у высокай інстанцыі сказалі: "Ну вось. Гэта ўжо іншая справа". І "Сняцца дні мне залатыя" ўбачылі свет.

Мы згадалі гэты эпізод, каб расказаць, у якіх умовах выдаваўся на Радзіме адзіны пакуль што паэтычны зборнік Уладзіміра Клішэвіча і каб не судзілі занадта строга ні аўтара, ні выдаўцоў.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

*Артыкул М. Мішчанчука з часопіса "Полымя" мы з задавальненнем перадрукоўваем (стар. 6).*

(стар. 6)



**НА ЗДЫМКУ: Уладзімір КЛІШЭВІЧ (крайні справа) у рэдакцыі газеты "Голас Радзімы".**

**(Фота з архіва).**

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Рака Нёман каля Стоўбцаў.** **Фота Віктара СТАВЕРА.**

(Фотарэпартаж са Стоўбцаў чытайце у наступным нумары "Голасу Радзімы").

## ВІНШАВАННЕ КІРАЎНІКУ РЫМСКА-КАТАЛІЦКАЙ ЦАРКВЫ

Святейшаму Іаану Паўлу II, Папе Рымскаму, Ватыкан

**Ваша Святейшаства!**

**Ад імя беларускага народа і ад сябе асабіста сардэчна віншую Вас з дваццацігоддзем абрання Вашага Святейшаства Папай Рымскім.**

**Мы зведваем глыбокае задавальненне ад магчымасці выказаць з нагоды гэтага знамянальнага юбілею нашы пачуцці Вашаму Святейшаству, якія сведчаць аб прызнанні Вашых вялікіх заслуг у справе развіцця ўзаемаразумення і ўмацавання міру паміж народамі.**

**Устанаўленне дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Ватыканам паклала пачатак добрым адносінам паміж нашымі дзяржавамі. У Беларусі маюцца неабходныя ўмовы і магчымасці для дзейнасці Рымска-Каталіцкай Царквы, якая з'яўляецца другой па колькасці канфесіяй у краіне і ўносіць значны ўклад у духоўнае адраджэнне народа. У сваю чаргу, беларуская дзяржава садзейнічае вырашэнню праблем, што стаяць перад епархіямі Рымска-Каталіцкай Царквы.**

**Прыміце нашы шчырыя пажаданні Вашаму Святейшаству здароўя і даўгалецця, далейшага паспяховага служэння на карысць міру і справядлівасці на Зямлі.**

**З вялікай павагай**

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**
**Мінск,**
**22 кастрычніка 1998 года.**

*ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР*

## БЕЛАРУСЬ — ІНДЫЯ: НОВЫ ІМПУЛЬС

**Перспектывы індыйска-беларускага супрацоўніцтва сталі галоўнай тэмай размовы ў час візіту міністра замежных спраў Беларусі Івана Антановіча ў Індыю.**

**Як паведамілі ў прэс-службе МЗС нашай краіны, кіраўнік беларускага знешнепалітычнага ведамства правёў у Дэлі перагаворы з віцэ-прэзідэнтам Індыі Крышнанам Кантам. Ён перадаў яму пасланне Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі Прэзідэнту Індыі Качарылу Нараянану. У час гэтай сустрэчы размова ішла і аб далейшым палітычным узаемадзеянні Індыі і Беларусі.**

**Быў узгоднены таксама парадак першага пасяджэння сумеснай беларуска-індыйскай эканамічнай камісіі, якое пройдзе ў Мінску ў канцы кастрычніка.**

**Іван Антановіч выступіў таксама ў Індыйскім міжнародным цэнтры, прыняў удзел у прэзентацыі таварыства дружбы "Індыя—Беларусь", створанага па ініцыятыве Індыйскай асацыяцыі таварыстваў дружбы з замежнымі краінамі. Акрамя таго, ён даў інтэрв'ю буйнейшым індыйскім газетам "Таймс оф Індыя" і "Трыб'юн".**

*«БЕЛАРУСКІ ДОМ-98»*



**У Мінску ў Нацыянальным выставачным цэнтры "Белэкспа" адкрылася Міжнародная спецыялізаваная выстава жылля і будаўніцтва "Беларускі дом-98".**

**У яе экспазіцыі прымаюць удзел каля 200 прадпрыемстваў розных форм уласнасці з Беларусі і Расіі.**

**НА ЗДЫМКУ:** у павільёнах выставы.

Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.

*БЕЛАРУСЬ — ААН*

## ПЕРСПЕКТЫВЫ СУПРАЦОЎНІЦТВА

**Прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг правёў 21 кастрычніка рабочую сустрэчу з намеснікам генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па гуманітарных пытаннях Серджыо дэ Мела.**

**Пан дэ Мела прыбыў у рэспубліку ў якасці каардынатара ААН па Чарнобылю. Ён дэталёва азнаёміўся з нацыянальнымі мерапрыемствамі па пераадоленні вынікаў катастрофы. У ходзе перагавораў з кіраўніком урада абмяркоўваліся далейшыя перспектывы супрацоўніцтва ў галіне рэагавання на надзвычайныя сітуацыі.**

*ПА ІНІЦЫЯТЫВЕ ПРЭЗІДЭНТА*

## ДАПАМОГА ПРАВАСЛАЎНЫМ

**Як паведамляе БелаПАН, завяршаецца беларуская дабрачынная акцыя па аказанні харчовай дапамогі расійскім "братам па веры". Дзесяці праваслаўным цэнтрам Расіі будзе дастаўлена з Беларусі каля 400 тон харчавання.**

**Па словах старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Аляксандра Білыка, акцыя міласэрнасці "Беларусь — Расія" праводзіцца па ініцыятыве Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў адказ на просьбу патрыярха Аляксія II, выказаную падчас яго нядаўняга візіту ў Беларусь. "Прэзідэнт пранікся бядотным станам 240 манастыроў і сястрыцтваў Расіі ў цяперашні крызісны час і прапанаваў аказаць дапамогу 10 духоўным цэнтрам саюзнай дзяржавы па спісе, прадстаўленым Аляксіем II".**

**10 кастрычніка караван гуманітарнай дапамогі з 19 аўтамабіляў з 230 тонамі харчавання (бульба, агародніна, сыр, згушчанае малако, цукар, крупы, макаронныя вырабы, кансервы з агародніны) накіраваўся ў Маскву.**

*ФЕСТЫВАЛЬ «БЕЛАЯ ВЕЖА»*



**Віцебскі тэатр "Лялька" ўжо трэці раз прыняў удзел у міжнародным тэатральным фестывалі "Белая вежа", што праходзіў у Брэсце. Гран-пры фестывалю адзначаны спектакль тэатра "Чароўная зброя Кандзо", які створаны па матывах японскіх казак рэжысёрам-пастаноўшчыкам Віктарам Клімчуком — мастацкім кіраўніком "Ляльці".**

**Але гэта яшчэ не ўсе ўзнагароды, прывезеныя з Брэста. Спектакль тэатра "Брэменскія музыканты" прызнаны лепшым лялечным спектаклем года, актрыса Вольга Маханькова — лепшай выканаўцай жаночай ролі, а Віктара Клімчука чакае творчая паездка ў Японію.**

**НА ЗДЫМКУ: уладальнікі Гран-пры фестывалю "Белая вежа" лялечнікі з Віцебска.**

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.

*СУСЕДЗІ*

## ЛІТОЎСКІ ДОМ У МІНСКУ

**У Мінску будзе адкрыты Гандлёвы дом Літвы, дзе беларускія прадпрымальнікі змогуць знаёміцца з літоўскай прадукцыяй і заключаць гандлёвыя здзелкі. Аналагічны Гандлёвы дом беларусы плануюць адкрыць у Вільнюсе. Прынцыповая дагаворанасць аб гэтым была дасягнута ў час візіту літоўскіх прамыслоўцаў у Мінск на пачатку кастрычніка.**

*РАДОВІШЧЫ*

## ЗНОЙДЗЕНА ЖАЛЕЗА

**Геолагі адшукалі каля вёскі Аколава Стаўбцоўскага раёна радовішчы жалезнай руды.**

**Па словах дырэктара Беларускага навукова-даследчага геолагаразведачнага інстытута Сямёна Гудака, запасы Аколаўскага радовішча складаюць, па папярэдніх падліках, каля 517 мільёнаў тон. На сённяшні дзень ля Аколава прабурана 8 свідравін, дзе на глыбіні ад 400 да 600 метраў залягае жалезная руда. Каб цалкам абследаваць увесь участак, спатрэбіцца яшчэ 2 гады. Гаварыць аб тым, што ў Беларусі будзе хутка сваё жалеза, пакуль рана. Справа ў тым, што ў нас знойдзена руда з невялікай канцэнтрацыяй жалеза — не болей 30 працэнтаў. Каб выкарыстоўваць такую руду ў прамысловасці, краіне спатрэбіцца пабудаваць абагачальную фабрыку магутнасцю перапрацоўкі 9,5 мільёна тон руды ў год, што дасць магчымасць атрымліваць каля 2,5 мільёна тон металізаваных акатышаў. Такой колькасці жалезнага канцэнтрату хопіць Жлобінскаму металургічнаму заводу прыкладна на 50 гадоў. Пасля поўнай разведкі радовішча сваё апошняе слова павінны сказаць эканамісты, якія ў выніку падліку зробяць высновы наконт таго, што больш выгадна: здабываць сваё жалеза або закупляць гэты метал за мяжой.**

*ЛЮБІМЫ ЗАНЯТАК*

**Любімы занятак загадчыка Веткаўскай сярэдняй школы № 2 Ірыны ЗУБОВІЧ — вязанне кручком. Сурвэткі, шторы, фіранкі, карункі Ірыны Іванаўны вядомыя многім. Таму бацькі ахвотна вядуць сваіх дзяцей у гурток пры Веткаўскім музеі народнай творчасці, якім яна кіруе.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

ВУЛІЦА ТАНКАВАЯ Ў МІНСКУ рашэннем гарадскіх улад перайменавана ў вуліцу Максіма Танка. Так сталіца ўвекавечыла памяць народнага паэта Беларусі. Вясной будучага года там адкрыюць мемарыяльную дошку.

БЕЛАРУСКІЯ ПАГРАНІЧНІКІ за апошні месяц затрымалі больш за дзесятак грамадзян Расіі. Яны спрабавалі перайсці беларуска-польскую мяжу, а канчатковая мэта была — трапіць у французскі іншаземны батальён.

КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ быў не лідэрам нацыянальна-вызваленчага руху ў Беларусі, а паўстання, накіраванага на абарону польскіх інтарэсаў. Так сцвярджаюць аўтары толькі што прэзентаванага новага падручніка "Гісторыя Беларусі", прызначанага для студэнтаў ВНУ. Аўтарскі калектыў пад кіраўніцтвам прафесара Яўгенія Новіка запэўнівае, што напісалі гісторыю не прыхарошаную і не ачэрненую, а цалкам аб'ектыўную.

ПЕРШУЮ ПАРТЫЮ растваральнай кавы выпусціў толькі што ўведзены ў эксплуатацыю цэх Баранавіцкага камбіната харчовых прадуктаў. Як толькі дасягне праектнай магутнасці, новае прадпрыемства будзе выпрацоўваць да 1 тысячы тон гранулянай кавы. Абяцаюць, што яна будзе не горшай за "Нэскафэ".

НАЦЫЯНАЛЬНЫ БАНК Беларусі ўвёў у абарачэнне памятную манету вартасцю 10 рублёў. Манета прысвечана 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Тыраж яе 10 тысяч экземпляраў.

*НА ПАМЕЖЖЫ*

## САВЕТ ПА ЎЗАЕМАДЗЕЯННЮ

**У Браславе адбылася сустрэча кіраўнікоў органаў мясцовага самакіравання памежных раёнаў Беларусі, Літвы і Латвіі. У ходзе яе было заяўлена аб стварэнні Савета па трансгранічнаму ўзаемадзеянню гэтых дзяржаў.**

**Прызначэнне савета адпавядае праграме Еўрасаюза "Еўропа без межаў", якая садзейнічае развіццю мірных узаемаадносін паміж дзяржавамі нашага кантынента і прадугледжвае фінансаванне праектаў, накіраваных на ажыццяўленне гэтай ідэі.**

**У склад стваранага савета ўвайшлі кіраўнікі мясцовых органаў самакіравання, якія будуць сустракацца не радзей, чым тры разы на год. Першым кіраўніком органа абраны старшыня Браслаўскага райсавета Р. Журня.**

*МЕЛІЯРАЦЫЯ — 2005*

## ТРЫЛЬЁНЫ АКУПЯЦЦА

**На кожную гаспадарку рэспублікі прыпадае прыкладна па тысячы гектараў асушаных зямель. За апошнія дзесяцігоддзі ўраджайнасць культур на гэтых угоддзях з-за выхаду са строю меліярацыйных сістэм знізілася прыкладна на 20 працэнтаў.**

**Акадэмія аграрных навук рэспублікі распрацавала праграму па захаванні і выкарыстанні меліяраваных зямель на 1999—2005 гады. На яе рэалізацыю неабходна будзе выдзеліць з бюджэту каля 18 трыльёнаў рублёў у дзеючых цэнах. Згодна з разлікамі, гэтыя затраты павінны акупіцца за 8 гадоў.**

*СКРЫЖАЛІ ГІСТОРЫІ*

## СВЯТА Ў ПОЛАЦКУ

**Старажытны Полацк адзначыў 500-годдзе надання гораду магдэбургскага права.**

**Горад з больш чым 1100-гадовай гісторыяй на ўсе часы быў цэнтрам развіцця ўсходніх славян, ён стаў калыскай беларускай дзяржаўнасці, даў свету нямала выдатных імён.**

**Да святкавання было прымеркавана адкрыццё ў Полацку III Міжнароднага фестывалю арганнай музыкі "Званы Сафіі", які прадоўжыцца да 22 лістапада.**

МІЖНАРОДНАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ СТУДЭНТАЎ
У ГАЛІНЕ ЭКАНОМІКІ І КІРАВАННЯ

# ПРАГРАМА СТАЖЫРОВАК ТАЛЕНАВІТАЙ МОЛАДЗІ

**Не так даўно мінскае прадстаўніцтва Міжнароднай асацыяцыі студэнтаў і маладых спецыялістаў у галіне эканомікі і кіравання (AIESEC) правяло прэзентацыю праграм стажыровак для студэнтаў і аспірантаў ВНУ Мінска "Свет стажыровак".**

Ідэя стварэння міжнароднай асацыяцыі студэнтаў і маладых спецыялістаў, якія вывучаюць эканоміку і кіраванне, узнікла яшчэ ў 30-я гады ў Скандынавіі, дзе бізнес-школы прапанавалі арганізаваць праграму міжнародных стажыровак "Praxis". Праект карыстаўся вялікім поспехам, аднак сусветны эканамічны крызіс і вайна надоўга прыпынілі яго развіццё. Пасля вайны патрэба ў вопытных спецыялістах у галіне эканомікі прымусіла ўспомніць аб ім, і ў 1946 годзе ён аднавіўся ў выглядзе міжнароднай праграмы абмену студэнтамі. У 1948 годзе студэнты сямі еўрапейскіх краін: Бельгіі, Даніі, Фінляндыі, Нарвегіі, Швецыі, Францыі і Галандыі — стварылі Міжнародную асацыяцыю AIESEC, у якую сёння ўваходзіць 87 краін, яна аб'ядноўвае 80 тысяч студэнтаў, якія вучацца ў 750 вышэйшых навучальных установах. З 1997 года штаб-кватэра AIESEC знаходзіцца ў Ратэрдаме. Лакальны камітэт AIESEC у Мінску быў створаны ў 1992 годзе. Праграма міжнародных стажыровак AIESEC дзейнічае ўжо 50 гадоў. Яна дае магчымасць студэнтам, аспірантам, магістрам з любой краіны-члена AIESEC прайсці стажыроўку ў 87 краінах свету. Сярод кампаній, што з'яўляюцца партнёрамі AIESEC і пастаянна ўдзельнічаюць у праграмах стажыровак, — "Schell International Petroleum Co. LTD.", "Bayer AG", "Rank Xerox", "Idm World". Усяго ж сёння AIESEC падтрымлівае сувязі прыкладна з 25 000 кампаніямі.

Уключыліся ў гэтую праграму і беларускія фірмы. Так, на прэзентацыі "Свет стажыровак" выступаў студэнт з Германіі, які прыехаў у Беларусь, каб прайсці стажыроўку ў кампаніі "Каўчэг". Прымаючы ў сябе замежнага стажора, фірма дае магчымасць беларускаму студэнту прайсці стажыроўку за рубяжом.

У 1996 годзе на міжнародным кангрэсе AIESEC было прынята рашэнне аб расшырэнні спецыяльнасцей, па якіх ажыццяўляюцца стажыроўкі. Для Беларусі ўяўляюць цікавасць, у прыватнасці, Technical Development Program — праграма стажыровак спецыялістаў з тэхнічнай адукацыяй, у асноўным, спецыялістаў па новых інфармацыйных сістэмах, камп'ютэрнаму праграміраванню і дызайну. Праграма Global Entrepreneurs створана з мэтай абмену вопытам і стымулявання развіцця прадпрымальніцтва, Vouth Development Exchange Program — праграма міжнародных стажыровак з мэтай развіцця трэцяга сектара. У гэтых і іншых праграмах AIESEC могуць удзельнічаць студэнты і маладыя спецыялісты да 35 гадоў, аднак пры гэтым кандыдат павінен свабодна валодаць, як мінімум, адной з найбольш распаўсюджаных еўрапейскіх моў, быць гатовым да выканання ад распрацоўкі да завяршэння канкрэтнага праекта, вывучаць культуру краіны стажыроўкі і прадстаўляць культуру сваёй краіны. Таксама на прэзентацыі "Свет стажыровак" быў прадстаўлены ACCELS — амерыканскі савет па супрацоўніцтву ў галіне адукацыі і вывучэння моў, які дзейнічае на тэрыторыі былога Савецкага Саюза з 1978 года, а ў Беларусі — з 1992-га. Студэнты першых трох курсаў ВНУ могуць прайсці стажыроўкі па такіх спецыяльнасцях, як сельская гаспадарка, амерыканістыка, бізнес, інфармацыйныя тэхналогіі, эканоміка, ахова прыроды, журналістыка, права, бібліятэчная справа, ахова здароўя і выкладанне англійскай мовы. Абавязковым патрабаваннем для кандыдатаў з'яўляецца беларускае грамадзянства, пражыванне ў Беларусі ў час правядзення праграм, добрае веданне англійскай мовы, магчымасць атрымаць амерыканскую візу, узрост ад 17 да 23 гадоў.

У рамках дзейнасці ACCELS маецца праграма FSA для сярэдняй школы, якая ўпершыню прадастаўляе беларускім школьнікам магчымасць паехаць на вучобу ў ЗША. Кожны ўдзельнік праграмы, якая поўнасцю фінансуецца ўрадам ЗША, на працягу акадэмічнага года жыве ў амерыканскай сям'і і вучыцца ў амерыканскай школе. Акрамя вышэйпералічаных арганізацый магчымасці для стажыроўкі за рубяжом беларускім студэнтам прадстаўляюць Савет па міжнародных даследаваннях і абменах IREX, які прадастаўляе праграму "Про медыа", прызначаную для павышэння прафесійнага ўзроўню журналістаў, конкурс на атрыманне індывідуальных грантаў для правядзення навуковых даследаванняў у галіне гуманітарных і грамадскіх навук ва універсітэтах і даследчых цэнтрах ЗША на тэрмін ад 3 да 8 месяцаў і некаторыя іншыя праекты.

Праграмы абмену студэнтаў і аспірантаў ажыццяўляюць таксама Цэнтр міжнароднага абмену ICX, Нямецкая служба акадэмічных абменаў DAAD, Беларускае маладзёжнае аб'яднанне "Новыя асобы" і некаторыя іншыя. "Ліга добраахвотнай працы моладзі" была заснавана ў 1994 годзе і сёння з'яўляецца асацыіраваным членам каардынацыйнага камітэта Міжнароднай валанцёрскай службы і Альянса еўрапейскіх арганізацый добраахвотнай працы. Яна працуе па чатырох асноўных напрамках. Гэта фарміраванне студэнцкіх атрадаў, арганізацыя лагераў добраахвотнай бясплатнай працы, ці валанцёрскі рух, падрыхтоўка педагагічных атрадаў для арганізацыі дзіцячага адпачынку і правядзенне міжнародных семінараў і стажыровак для спецыялістаў па справах моладзі сумесна з партнёрскімі арганізацыямі за рубяжом. Асноўным відам дзейнасці з'яўляецца валанцёрскі рух, заснаваны на жаданні маладых людзей унесці свой уклад у рэалізацыю сацыяльна значных праектаў і ў той жа час як мага больш даведацца аб іншай краіне, яе людзях і культуры.

У Міжнародны валанцёрскі лагер збіраюцца маладыя людзі з усяго свету. Звычайна гэта 15—20 чалавек, што працуюць разам на працягу 2—4 тыдняў па самых розных напрамках. Гэта можа быць рамонт міжнароднага клуба ці цэнтра, праца з дзецьмі, інвалідамі, экалагічныя праекты, рэстаўрацыя, удзел у музычных ці спартыўных праектах. Удзел у валанцёрскіх праграмах не патрабуе вышэйшай адукацыі, хаця веданне замежнай мовы абавязковае і тут. Праезд да месца прызначэння ўдзельнік праграмы аплачвае самастойна. Знаходжанне, харчаванне, удзел у той ці іншай праграме ажыццяўляецца бясплатна. Кожны год у праектах ЛДТМ удзельнічаюць больш за 5 000 чалавек (з беларускага боку ў мінулым годзе — 697 чалавек), а партнёрскія арганізацыі маюцца больш чым у 20 краінах СНД, Заходняй і Усходняй Еўропы, Амерыкі і Азіі.

Для ўдзелу ў вышэйпералічаных праграмах кандыдатам даводзіцца праходзіць досыць жорсткі конкурсны адбор, аднак гэтыя арганізацыі даюць беларускім студэнтам рэальны шанс прадоўжыць вучобу за рубяжом, прычым, у вельмі паважаных ВНУ, напрыклад, Оксфардскім універсітэце. Пры гэтым варта адзначыць, што ўсе вышэйпералічаныя замежныя арганізацыі традыцыйна ставяць сваёй мэтай падрыхтоўку кадраў для нацыянальных эканомік, а таму прадугледжваюць пэўныя меры, закліканыя садзейнічаць вяртанню студэнтаў пасля заканчэння стажыровак назад на радзіму. Ужо ўзнікалі сітуацыі, калі спецыялісты, якія прайшлі стажыроўку па той ці іншай праграме ў замежнай фірме, вярнуўшыся дамоў, адкрылі тут прадстаўніцтва той фірмы, дзе яны працавалі. Зрэшты, бывае і наадварот: фірма, зацікаўленая ў беларускім спецыялісце, які стажыраваўся, ужо пасля яго вяртання на радзіму знаходзіла спосаб выклікаць яго назад.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

НАШЫ ВЁСКІ



# СТАРАЖЫТНЫЯ АЗЁРЫ



Азёры — адна з вялікіх і старажытных вёсак Гродзеншчыны. Летась урачыста адзначылі яе 600-годдзе. Праўда, у энцыклапедыі пазначана, што паселішча ў дакументах упамінаецца пад 1518 годам. Аднак краязнаўцы вызначылі іншую дату.

Цяпер у вёсцы каля дзвюх тысяч жыхароў. Самае значнае прадпрыемства — дрэваапрацоўчы цэх Гродзенскага лясгаса. Калектыў яго вырабляе разнастайную прадукцыю, большасць якой ідзе на экспарт. На ўскраіне размясціўся цэлы гарадок домікаў для норак. Гэта адна з самых вялікіх беларускіх зверагадоўчых ферм.

Лясніцтва таксама не з горшых. Яго ўладанні раскінуліся аж да граніцы з Літвой. Яно забяспечвае сыравінай дрэвaперапрацоўчы цэх. Але асноўная яго задача — пасадка новых лясоў, догляд і ахова лясных масіваў.

А яны надзвычай прывабныя. Захаваліся стогадовыя сасняκі. Хвоі высокія, стройныя, меднастволыя. Бярэзнікі светлыя, чыстыя. Каля Азёр створана зялёная зона адпачынку для жыхароў Гродна.

Мясціны тут вельмі прыгожыя, проста цудоўныя. Вёска стаіць на паўднёвым беразе возера Белае. Яно сапраўды белае: вада ў ім светлая-светлая. Даўжыня возера трынаццаць кіламетраў, яно багатае на рыбу.

За апошнія дзесяцігоддзі Азёры разбудаваліся. Дамы ў асноўным аднапавярховыя. Каля кожнага агарод, сад, а ўсё паселішча ў зяляніне. На плошчы ў цэнтры магазіны, кафэ, адміністрацыйныя будынкі сельвыканкома, калгаса "Азёры". Ёсць адметнасць: побач стаяць царква, касцёл і Дом культуры. Наўрад ці знойдзецца яшчэ дзе такое спалучэнне. Дружба і талерантнасць — гэта добра.

У вёсцы жыццё цячэ ціха, размерана. Але былі тут і бурныя гады, і прыкметныя падзеі. У час першай рускай рэвалюцыі на суконнай фабрыцы бунтавалі рабочыя. Пры Польшчы ў Азёрах дзейнічалі падпольныя арганізацыі, ячэйка Таварыства беларускай школы. У 1925 годзе было арыштавана 98 падпольшчыкаў. Бываў тут нацыянальны герой беларусаў Сяргей Прытыцкі. У 1942 годзе партызаны пры ўдзеле маладых падпольшчыкаў са Скідзеля знішчылі гітлераўскі гарнізон у Азёрах.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: царква і касцёл, а за дрэвамі — Дом культуры; у ваколіцах Азёр.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# НАВІНЫ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

"Шлях да ўзаемнасці". Так называлася міжнародная навуковая канферэнцыя, якая на працягу трох дзён праходзіла ў Прынямонні. Акрамя навукоўцаў Польшчы і Беларусі, у сустрэчы ўдзельнічалі намеснікі старшынь гар- і райвыканкомаў вобласці. Цікавыя паведамленні зрабілі на канферэнцыі старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку Ян Сычэўскі і старшыня Саюза палякаў Беларусі Тадэвуш Гавін. Усяго ж заслухана звыш 30 дакладаў, якія прысвячаліся пераважна пытанням беларуска-польскага супрацоўніцтва, гісторыі, культуры і свядомасці суседніх народаў.

Выязное пасяджэнне канферэнцыі адзін дзень праходзіла ў Навагрудку і прысвячалася 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча.

115-годдзе знакамітага шклозавода "Нёман" і Дзень горада ўрачыста адзначыла Бярозаўка. З гэтай нагоды тут адбыўся тэлевізійны фестываль самадзейных мастацкіх калектываў Рэспублікі Беларусь "Залатыя ключы". Лаўрэаты фестывалю выступілі перад удзячнымі шкларамі з канцэртам.

Застаецца дадаць, што да свайго свята мясцовыя гутнікі асвоілі выпуск новых вырабаў і прыкметна павялічылі аб'ёмы вытворчасці. Нёманскае шкло карыстаецца добрым попытам у шэрагу краін Еўропы і Амерыкі.

Карэліцкі раён нядаўна наведаў вядомы польскі вучоны, прафесар Музея зямлі ў Варшаве Збігнеў Вуйцік. Госць падарыў дырэктару Мядвядскай школы Васілю Хіневічу для адкрытага там музея Ігната Дамейкі сваю кнігу "Ігнат Дамейка. Літва — Францыя — Чылі".

Іншы дар ад пана прафесара — кнігу Габрыеля Брзэнка "Бенедыкт Дыбоўскі. Жыццё і справы" — атрымаў карэліцкі краязнаўчы музей "Зямля і людзі". Гэта другое па ліку выданне навукоўца, дапоўненае і пашыранае, таксама пра нашага знакамітага земляка.

У вёсцы Радзівонішкі Лідскага раёна адкрыты зноў праваслаўны храм. Адноўленую царкву асвяціў епіскап Навагрудскі і Лідскі Гурый. Значную дапамогу вернікам у ажыццяўленні іх мары аказалі мясцовая аграфірма "Мажэйкава" на чале з дырэктарам Казімірам Рахаткам, некаторыя лідскія прадпрыемствы.

Нядаўна пачалося аднаўленне царквы ў вёсцы Дзікушкі. Будуюцца на Лідчыне і касцёлы.

Кніга "Ян Чачот, Ігнат Дамейка — сябры і паплечнікі Адама Міцкевіча" выйшла ў серыі "Беларусіка — Albaruthenica". Выданне гэтае, падрыхтаванае Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны, змяшчае матэрыялы Карэліцкіх краязнаўчых чытанняў, што адбыліся ў 1990 і 1997 гадах. Кожны раздзел кнігі ілюстраваны гравіраванымі партрэтамі Ігната Дамейкі і Яна Чачота.

Выданне, у якім утрымліваецца шмат цікавых матэрыялаў пра нашых землякоў, разлічана на масавага чытача.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

РЭЦЭНЗУЕМ КНІГІ

# «ГІСТАРЫЧНЫ ДАВЕДНІК БЕЛАРУСІ»

Замежнаму чытачу ўжо добра знаёмыя кнігі з серыі "Еўрапейскія гістарычныя даведнікі" пад рэдакцыяй Джона Воранава. У 1998 годзе выйшаў у свет "Гістарычны даведнік Беларусі". Не без пачуцця гордасці хочацца адзначыць, што ў гэтую серыю, якая выдаецца з 1993 года і складаецца ўжо з трыццаці дзвюх кніг, трапілі толькі чатыры выданні, прысвечаныя краінам былога СССР — Латвіі, Літве, Расіі і Беларусі. "Гістарычны даведнік Беларусі", — адзначыў у прадмове да выдання Дж. Воранаў, — з'яўляецца надзвычай каштоўнай крыніцай ведаў для чытачоў, якія дагэтуль мала ведалі пра Беларусь, адну з "новых" краін, што ўтварыліся пасля распаду Савецкага Саюза".

Аўтар сапраўды тытанічнай працы — вядомы гісторык і публіцыст Янка Запруднік. Нарадзіўшыся ў Беларусі, у Міры, ён большую частку свайго жыцця правёў за яе межамі, у асноўным у ЗША. Доктар Ян Запруднік — аўтар шэрагу кніг і артыкулаў, прысвечаных гісторыі Беларусі. Паставіўшы перад сабой адказную мэту стварыць даведнік па гісторыі Беларусі для замежных чытачоў, ён напісаў грунтоўную, аб'ёмную па зместу, цікавую кнігу. І, здаецца, праца "выйшла за рамкі" пастаўленай задачы, бо азнаёміцца з пададзеным матэрыялам было б цікава і карысна і тым беларусам, што вывучаюць гісторыю свайго краю са школы. "Выхоўваць любоў да нацыянальнай культуры, — калісьці пісаў У. Караткевіч, — можна адным толькі спосабам: выхаваннем у чалавеку гордасці за свой народ і яго дзеянні ў гісторыі". Думаецца, што пасля знаёмства з кнігай Я. Запрудніка беларус адчуе гордасць за сябе, за сваю гісторыю... А "Беларусь мела доўгую і бурную гісторыю", — адзначыў ва ўступе аўтар. Толькі дзіву даешся, як змог адзін чалавек напісаць такі змястоўны даведнік, падаўшы ў сціслым выглядзе шматлікія факты складанай і супярэчлівай нашай гісторыі.

Кніга складаецца з чатырох раздзелаў: "Уступ", "Даведнік", "Бібліяграфія" і "Дадатак: Кіраўнікі Беларусі, 860—1997", якім папярэднічаюць дзве схематычныя карты Беларусі і храналогія гістарычных падзей з найстаражытнейшых часоў і да нашых дзён. Аўтар не абмяжоўваецца толькі канстатацыяй гістарычных фактаў і дат, па магчымасці ўключае каментарыі і ўдакладненні. Да прыкладу: "1861—1931. Жыццё Я. Карскага, аўтара трохтомнай працы "Беларусы" (1903—1922); "26 красавіка 1986. Ядзерны выбух на Чарнобыльскай АЭС, Украіна; 70 % радыеактыўных ападкаў выпалі на Беларусь"; "3 чэрвеня 1988. Мінская штотыднёвая газета "Літаратура і мастацтва" друкуе матэрыял аб выяўленні ў Курапатах (пад Мінскам) 500 масавых пахаванняў ахвяр сталінскіх рэпрэсій".

"Палітычная карта Усходняй Еўропы, — піша ва "Уступе" Я. Запруднік, — карэнным чынам змянілася ў снежні 1991 г., калі кіраўнікі Беларусі, Расіі і Украіны, сабраўшыся разам у Белавежскай пушчы, прынялі рашэнне аб распадзе СССР, які складаўся з пятнаццаці рэспублік. Адной з такіх рэспублік была Беларусь..." Гэтая падзея мела вялікі палітычны рэзананс ва ўсім свеце, таму зусім не на шкоду іншым фактам аўтар у гэтым раздзеле асабліва падрабязна расказвае пра эканамічныя, палітычныя, грамадскія праблемы менавіта гэтага перыяду — з 1991 да 1997 года. Аўтар выкарыстоўвае дакладныя факты і лічбы, пазбягае замоўчвання ці суб'ектыўных ацэнак.




Свежасцю думкі, багатым фактычным матэрыялам вылучаюцца наступныя падраздзелы: "Спад жыццёвага ўзроўню", "Гарбачоўская палітыка Перабудовы", "Незалежнасць", "Крызіс пасля Незалежнасці".

Чытаючы наступны раздзел "Даведніка", замежны чытач можа пазнаёміцца з імёнамі вядомых дзеячаў беларускай гісторыі, культуры, мастацтва, навукі, асветы. Ефрасіння Полацкая, Ф. Скарына, М. Гусоўскі, В. Цяпінскі, С. Будны, Кірыла Тураўскі, С. Манюшка, К. Каліноўскі, В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, З. Бядуля, М. Багдановіч, М. Гарэцкі, А. Гарун, В. Ластоўскі, А. Міцкевіч, Я. Колас, Я. Купала, У. Ігнатоўскі, браты Луцкевічы — вось далёка не поўны пералік славутых постацей, якія ўвайшлі ў даведнік. Асобныя артыкулы прысвечаны жыццю і дзейнасці многіх сучасных грамадскіх і культурных дзеячаў. Сярод іх — З. Азгур, Л. Баршчэўскі, Р. Барадулін, Я. Брыль, В. Быкаў, Н. Гілевіч, У. Караткевіч, М. Танк, І. Шамякін і інш. Расказана і пра першага беларускага касманаўта Пятра Клімука. Шмат інфармацыі пра сучасных палітычных дзеячаў, лідэраў шматлікіх партый Беларусі. Дарэчы, ёсць і асобны артыкул "Палітычныя партыі (з 1990 г.)", які ўключае 37 назваў. Можна даведацца пра розныя беларускія ўстановы, арганізацыі, таварыствы, асацыяцыі (НАН Рэспублікі Беларусь, БДУ, "Бацькаўшчына", "ТБМ", "Талака", "Мартыралог Беларусі" і інш.), пазнаёміцца з разнастайнымі палітычнымі і гістарычнымі дакументамі ("Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР" 27 ліпеня 1990 года, матэрыялы майскага 1995 і лістападаўскага 1996 года рэферэндумаў, "Хартыя-97" і інш.).

Аўтар падае змястоўную інфармацыю па гісторыі, геаграфіі, эканоміцы, палітыцы, рэлігіі, грамадазнаўству, культуры, багатыя краязнаўчыя звесткі. Аб'ектыўна разглядаюцца грамадска-палітычныя падзеі розных часоў, асаблівая ўвага надаецца тым, што адбываліся ў 90-я гады і ў апошніх выданнях па гісторыі Беларусі не ахарактарызаваны. Даведнік чытаць цікава і карысна, бо тут можна знайсці інфармацыю, якой у іншых падобных выданнях не было ці падавалася яна без уліку апошніх дасягненняў гістарычнай навукі. Выкарыстоўваюцца дакладныя лічбы пры аналізе разнастайных з'яў. Так, з артыкула "Дыяспара" можна даведацца, колькі беларусаў пражывае ў блізкім і далёкім замежжы. Выклікае ўсмешку артыкул "Грашовая сістэма", дзе расказваецца пра гісторыю і эвалюцыю грашовай адзінкі Беларусі — "зайчыка" ("hares", або "rabbits").

Змястоўныя аглядныя артыкулы па культуры Беларусі — "Архітэктура", "Скульптура", "Мастацтва", "Літаратура", "Музыка", дзе расказваецца аб нашых славутых майстрах. Гэта М. Шагал, К. Малевіч, А. Марачкін, Ф. Янушкевіч, У. Стальмашонак, А. Бембель, У. Мулявін, Алесь і Кася Камоцкія, Данчык, С. Сокалаў-Воюш, А. Атаманаў і шмат іншых. Спыняе ўвагу невялічкі артыкул "Літаратура ананімная", дзе гаворыцца не толькі пра вядомыя са школьнай парты "Энеіду навыварат", "Тараса на Парнасе", серыю "Гутарак" (1860—1890), а і пра паэму "Сказ пра Лысую гару" (1970). Вельмі карысным як для замежнага чытача, так і для саміх беларусаў будзе знаёмства з артыкуламі, прысвечанымі пытанням гісторыі і сучаснага стану беларускай мовы ("Алфавіт", "Русіфікацыя", "Паланізацыя", "Закон аб мовах", "Рэферэндум. Май, 1995" і інш.) і пытанням, звязаным з нацыянальнай сімволікай. Заслугоўвае ўвагі артыкул "Нацыянальны гімн", дзе распавядаецца пра гісторыю гімна, якога і на цяперашні дзень беларусы ў прынцыпе не маюць.

Змешчана вельмі багатая бібліяграфія, куды ўключаны і пазіцыі, у Беларусі невядомыя або малавядомыя. А ў канцы кнігі падаецца "Дадатак", з якога можна даведацца, хто кіраваў беларускім народам, пачынаючы ад Рагвалода да А. Лукашэнкі.

"Гістарычны даведнік Беларусі" — безумоўна каштоўная і неабходная кніга, бо, дзякуючы ёй, замежны чытач зможа пазнаёміцца з нашай багатай гісторыяй, складанымі сучаснымі працэсамі і праблемамі.

**Ірына ТАМІЛЬЧЫК,**
**навуковы супрацоўнік цэнтра імя Ф. Скарыны.**

*НАМ ПІШУЦЬ*

# ЛІТОЎСКІ КУТОК

За 70 кіламетраў ад Вільні, за трыццаць ад літоўска-беларускай мяжы раскінулася вёска Гервяты; з яе пачынаюцца літоўскія пасяленні на Астравеччыне. Пра гэтыя мясціны пісаў у сваёй кнізе "Астравеччына, край дарагі" Адам Мальдзіс, у літоўскім выдавецтве выпушчана кніга-манаграфія "Gervečiai", якая стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Падчас другой сусветнай вайны вёска была спалена, потым зноў адбудавалася. Цяпер гэта вялікае паселішча, тут цэнтр калгаса, двухпавярховы будынак сярэдняй школы, такі ж — дзіцячы сад, нядаўна пабудаваны новы будынак шпіталю. Ёсць клуб, бібліятэка, кавярня, крамы. Але ж Гервяты знакамітыя сваім касцёлам, вежы якога можна ўбачыць здалёк. Памятаю, у дзяцінстве мне прабабуля мая распавядала, як яна насіла цэглу на будаўніцтва вежаў касцёла. Якія ж таленавітыя былі нашы продкі, калі збудавалі рукамі помнік свайму часу.

Гервяцкі касцёл напамінае касцёл святой Ганны ў Вільні. Пабудаваны з чырвонай цэглы ў 1899—1903 гадах, касцёл святой Тройцы сёлета ўрачыста адзначаў сваё 95-годдзе. Набажэнствы вядуцца па-польску і па-літоўску. У гервяцкім касцёле пачынаў дзейнасць літоўскі оперны спявак Кіпрас Пятраўскас.

У адзін бок ад Гервят знаходзяцца вёскі Мацкі, Гальчуны, Гайголі, далей Гялюны, Рымдзюны, Гіры, Мільцеі, Пелягрында, Кністушкі. Гэта вёскі, у якіх пражывае ў асноўным літоўскае насельніцтва. З 1954 года ў Гірах, Рымдзюнах, Міцюнах, Гальчунах, Гайголях па просьбе бацькоў у школах выкладалася літоўская мова, а з 1961 года і ў Гервяцкай школе пачалі вывучаць літоўскую мову. Добрыя зносіны з Вільнюсам, раней тры разы ў дзень курсіраваў аўтобус з Вільні, паўтары гадзіны язды. Пасля "перабудовы" стала больш складана: на дарогу трэба патраціць тры гадзіны і больш (як прапусцяць на мытні), аўтобус з Вільні курсіруе два разы на дзень, а ў выхадныя — тры.

Літоўская дзяржава рэальна клапоціцца аб сваіх суродзічах. На пачатку "перабудовы", у 1989 годзе, Літва і Беларусь пачалі будаваць у вёсцы Рымдзюны культурна-адукацыйны цэнтр. Будаўніцтва працягваецца да гэтага часу, гэта такое архітэктурнае двухпавярховае збудаванне, якому пазайздросціў бы горад. Узводзяць літоўскія будаўнікі. Пабудавана каля дзесяці алітускіх дамкоў, у якіх жывуць настаўнікі літоўскай школы, у адным з іх размясціўся літоўскі дзіцячы сад. У 1996 годзе адбылося адкрыццё літоўскай сярэдняй школы ў Рымдзюнах і культурна-адукацыйнага цэнтра.

У 1997 годзе на першым паверсе размясцілася беларуская школа, на другім — літоўская. Класы светлыя, прасторныя, вялікая спартыўная зала, у літоўскай ёсць пакойчык, у якім месцяцца экспанаты музея "Гісторыя краю", шмат зрабіла для музея настаўніца літоўскай мовы Рэната Грэймайце, яна ж арганізавала фальклорны калектыў, вяла драматычны гурток. Восем гадоў назад, пасля ўніверсітэта, з Коўна прыехала яна ў гэтыя мясціны і прыжылася тут.

У чэрвені гэтага года ў Рымдзюнах быў арганізаваны "круглы стол" "Праблемы культуры і адукацыі літоўцаў у Беларусі, беларусаў у Літве". Сустрэча праходзіла ў літоўска-беларускім адукацыйным цэнтры ў Рымдзюнах, наладжаная Міністэрствамі адукацыі дзвюх краін, Дзяржаўным камітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь і Дэпартаментам па рэгіянальных праблемах і справах нацыянальнасцей пры ўрадзе Літвы, беларускім навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны, літоўскай асацыяцыяй беларусістаў і інш.

Кола пытанняў разглядалася шырокае, але для літоўскага боку галоўнае — захаваць літоўскую школу ў Рымдзюнах і, мякка кажучы, не вельмі мірнае суіснаванне дзвюх школ у адным будынку, хоць і прасторным. Захаваць літоўскую школу і закончыць яе будаўніцтва — важная задача для прадстаўніка літоўскай амбасады ў Мінску. Аб гэтым гаварыла ў сваіх выступленнях кіраўнік літоўскай суполкі ў Мінску Віргінія Тарнаўскайце. Хоць на канферэнцыі з беларускага боку прагучала дзіўная прапанова аб'яднаць дзве школы ў адну і назначыць дырэктарам літоўца, на яе ніхто не звярнуў увагі.

Пачаўся новы навучальны год, беларускія пачатковыя класы "выселены" з будынка школы. У літоўскай школе вучыцца 79 дзяцей, усе прадметы выкладаюцца на літоўскай мове, 26 гадзін з 1 па 11 класы беларускай мовы і 26 гадзін рускай. Адміністрацыя школы звярталася ў Астравецкі раённы аддзел адукацыі, каб дазволілі ў пачатковых класах не вывучаць рускую мову, але гэтага, вядома, ім не дазволілі. У школе працуе трынаццаць настаўнікаў, двое — мясцовыя, астатнія з розных куткоў Літвы, жывуць у асобных дамках, пабудаваных літоўскай дзяржавай, у адным будынку са школай ёсць шыкоўны для вёскі атэль з добрай мэбляй, прывезенай з Літвы, заканчваецца будаўніцтва пякарні, садзіка, плануецца басейн, хоць школа і размешчана на высокім беразе ракі Ашмянкі, у экалагічна чыстым кутку рэспублікі. Вучняў прывозяць і адвозяць, калі ім зручна, на школьным аўтобусе, падчас вакацый школьнікі вандруюць па Літве і Беларусі, іх фінансуюць літоўскія фонды.



У школе існуюць дэмакратычныя прынцыпы, гэта было бачна падчас канферэнцыі: прысутнічалі толькі тыя, каму гэта было цікава.

Такім чынам, у самай глыбінцы ёсць літоўскі куточак, літоўская школа, у якой хочацца вучыцца і прыемна працаваць, з сваёй літоўскай адметнасцю, дзе захавалі сваю старажытную мову, любяць і шануюць культуру, гісторыю. Нам бы ў іх павучыцца. У гэтым навучальным годзе назначаны новы дырэктар школы Альфонсас Швельніс — былы дырэктар Дэпартамента нацыянальных меншасцяў пры ўрадзе Літвы.

**Леакадзія МІЛАШ.**
г. Вільнюс.

*З БЕЛАРУСКАГА НАДЗВІННЯ Ў ЛАТВІІ*

# СВЯТА Ў ДАЎГАЎПІЛСЕ

26—27 верасня ў Даўгаўпілсе прайшлі Дні беларускай культуры. Спачатку тут гледачоў парадаваў сваім талентам Беларускі нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы спектаклем "Ідылія", які прайшоў пры запоўненай зале і атрымаў вельмі добрыя водгукі ў мясцовай прэсе.

А назаўтра госці і гаспадары прыйшлі на малебен у Барыса-Глебскі кафедральны сабор і ўсклалі кветкі да мемарыяльнай дошкі на будынку, дзе да вайны працавала Беларуская гімназія. Затым яны запоўнілі залу Цэнтра латышскай культуры. Тут з канцэртам, у якім прагучала нямала беларускіх песень і вершаў, выступілі народныя калектывы "Верба" з вёскі Дрысвяты, што на Браслаўшчыне, "Шчара" з Вісагінаса (Літва), "Надзея" з Рыгі, даўгаўпілская "Купалінка" і дзеці Беларускай нядзельнай школы ў Даўгаўпілсе. Шчымлівую беларускую народную песню праспявала госця з Мінска. Паколькі беларускаму таварыству "Уздым" якраз споўнілася 5 гадоў з дня рэгістрацыі таварыства ў Міністэрстве юстыцыі Латвіі, усе жадаючыя мелі магчымасць павіншаваць яго з гэтай нагоды. Нямала добрых слоў у адрас віноўнікаў урачыстасці сказалі генеральны консул Беларусі ў Даўгаўпілсе Васіль Марковіч, консул Валерый Сысоеў, які падараваў таварыству ікону Ефрасінні Полацкай (яны аказалі вялікую дапамогу ў падрыхтоўцы гэтага свята), мэр Даўгаўпілса Аляксей Відаўскі, першы намеснік мэра Рыта Стродэ, прадстаўнік Даўгаўпілскага раённага савета Ванда Кезік, старшыня таварыства дружбы "Латвія — Беларусь" Інара Муканэ, прафесар Латвійскай акадэміі навук Ілга Апінэ, супрацоўнік Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі Л. Балаўнёва, старшыня асацыяцыі беларусаў-прадпрымальнікаў Латвіі "Беларускі шлях" Валянціна Піскунова, старшыня Фонду беларускай культуры ў Латвіі Алесь Карповіч, загадчык Браслаўскага раённага аддзела культуры Альберт Белусь, старшыня беларускага таварыства "Крок" у Вісагінасе (Літва) Віктар Марчук, начальнік Краслаўскага аддзела паліцыі Мечыслаў Болтрук, які адзначыў, што ва ўсіх анкетах разам з грамадзянствам ЛР заўсёды з вельмі цёплым пачуццём піша "беларус", карэспандэнты газеты "Латгалес лайкс" Валерый Самахвалаў і Ілона Пяткевіч (у гэтай газеце выходзіць старонка "Беларус Латгаліі" таварыства "Уздым"), прадстаўнікі польскага, рускага, літоўскага, яўрэйскага, латышскага таварыстваў і іншыя паважаныя людзі. Аб многіх з гэтых выступоўцаў будуць напамінаць паштоўкі з прысвечанымі таварыству вершамі і каштоўныя падарункі. Яшчэ больш узмацніла добры настрой, які панаваў тут, вядучая свята, шчырая беларуска Яўгенія Гуляева. Старшыня "Уздыму" Станіслаў Валодзька, прачытаўшы свой верш "Уздым", выказаў усім, хто павіншаваў таварыства, словы шчырай падзякі.

Канцэрт закончыўся, але госці не разыходзіліся. Яны мелі магчымасць ля святочна накрытага стала сказаць тосты, паспяваць песні і пакружыцца ў танцах.

А таварыства "Уздым" наперадзе чакае напружаная праца праз будні да новых святаў, да новых юбілеяў.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**

ПОШУК

# ДЫЯРЫУШ МІХАЛА ГАЛУБОВІЧА

Рамуальд Зямкевіч у сваім вядомым артыкуле "Стары Менск у беларускіх успамінах" (1919—1920) так акрэслівае кола сяброў і знаёмых Дуніна-Марцінкевіча, яго акружэнне: "У доме Марцінкевіча сабіраліся ўсе інтэлігентныя сілы Мінска. Бывалі ў яго бібліёграф і паэт Ігнат Легатовіч, які пісаў і па-польску і па-беларуску, артыста-маляр Ян Дамель, каторы беспадобна рабіў карыкатуры і маляваў тыпы беларускіх сялян, арыгінальны і вельмі фацэтны гумарыст пан Юрый Кабылінскі, аўтар беларускага зборніка "Тысяча і адна фацэцыя", Міхал Галубовіч, епіскап, шчыры і добры беларус, знамяніты кампазітар Станіслаў Манюшка, польскі крытык і пісацель Аляксандр Тышынскі (напісаў цікавыя дагэтуль не надрукаваныя ўспаміны), граф Канстанцін Тышкевіч з Лагойска, пан Аляксандр Валіцкі, які пісаў па-беларуску пад прозвішчам Місьцюк, і шмат-шмат іншых".

Звяртае тут на сябе ўвагу імя Міхала Галубовіча (1800—1881), мінскага праваслаўнага епіскапа і архіепіскапа, які спачатку быў уніяцкім дзеячам і побач з І. Сямашкам прычыніўся ў свой час да скасавання уніі. Пра яго захаваліся самыя розныя сведчанні, але ўсе яны сыходзяцца на тым, што гэта асоба неардынарная. Паводле характарыстыкі А. Ельскага (артыкул "Мінск" у польскім "Слоўніку геаграфічным"), ён "быў цалкам абыякавы да рэлігіі, чалавек немалых здольнасцяў, вытанчанага жыцця, аматар і знаўца мастацтва, сабраў у сваім палацы значны збор карцін і скульптур".

Мабыць, вядомы пісьменнік і краязнаўца перабольшыў усё-такі абыякавасць Галубовіча да рэлігіі. Нядаўна ў нашым друку ("Беларускі гістарычны часопіс", 1993, № 4) адзначалася, што за дваццаць гадоў кіравання епархіяй (1848—1868) Галубовіч зрабіў нямала не толькі для ўмацавання пазіцый праваслаўя ў краі, але і для народнай асветы, зразумела, у зусім пэўным духу. З другога боку, прыводзілася і сведчанне сучаснікаў, што "он привлекал расположение образованных людей без различия в исповедании и национальности". На гэтым грунце і маглі ўзнікнуць узаемадачыненні такіх людзей, як Галубовіч і Дунін-Марцінкевіч.

Таму я вельмі зацікавіўся, даведаўшыся, што ў Аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску захоўваецца дзённік Галубовіча за 1858—1860 гады. (Пра гэта напісала галоўны бібліёграф Л. Станкевіч у аглядзе рукапісных збораў бібліятэкі, надрукаваным у другім выпуску зборніка "Здабыткі" за 1997 год).

І вось гартаю вельмі стары рукапісны сшытак, які па сваёй форме і памерах нагадвае наш "агульны". Можа трохі большы. На вокладцы напісана: "№ 7. 1858, 1859 и 1860". Выходзіць, да нас дайшла толькі невялікая частка дзённіка, усяго за тры гады. Да 1858 года Галубовіч паспеў спісаць шэсць сшыткаў, якія недзе на раздарожжах гісторыі згубіліся. А колькі такіх сшыткаў магло быць спісана пазней, тым больш, што з 1868 года ўладыка пайшоў на пакой (жыў у Жыровічах) і вольнага часу ў яго пабольшала. Не будзем марна наракаць на страты. Балазе захаваўся хоць адзін сшытак. Пячаткі з надпісамі "Минский церковный историко-археологический комитет" і "Комиссариат Просвеще[ния] Белорусск[ой] Республики. Областной музей" сведчаць аб ранейшых уладальніках гэтага рукапісу, аб шляху, які прарабіў сшытак як да рэвалюцыі, так і ў паслярэвалюцыйны час ("Абласны музей" існаваў у Мінску ў 1919—1923 гадах — потым ператвораны ў Дзяржаўны музей БССР). На жаль, гэта толькі асобныя вехі (так бы мовіць, дзве кропкі пункціру). Поўнай гісторыі рукапісу ва ўсіх падрабязнасцях мы не ўяўляем.

Ніякіх паметак, што гэта дзённік менавіта Галубовіча, у сшытку няма. Толькі на адвароце пераплёту нехта (архівіст?) напісаў у больш позні час сінім няякасным чарнілам: "Дневник митрополита" (без прозвішча). Але пасля азнаямлення са зместам пагаджаешся: так, сапраўды, гэта рукапіс мінскага праваслаўнага іерарха канца 1850-х гадоў, г. зн. Міхала Галубовіча.

Пісаўся дзённік пераважна чорным чарнілам драбнюткім, не заўсёды разборлівым почыркам. Толькі ў адным месцы (у дарозе — уладыка шмат ездзіў, быў, што называецца, лёгкі на пад'ём) запіс зроблены алоўкам.

Што здзіўляе: дзённік пісаўся на польскай мове, хоць па сваім становішчы ды і па перакананнях — пра гэта сведчаць і самі запісы — уладыка мусіў змагацца і змагаўся з польскімі ўплывамі. А вось у ціхай размове сам-насам з дзённікам ён карыстаўся польскай мовай, вядома ж, крэсавай, вельмі простай, набліжанай да беларускай (пракідаецца і беларуская лексіка). Так прывык ён з маладых гадоў. Па-руску ў дзённіку толькі назвы святаў, асобныя прозвішчы і выразы. Гэта акалічнасць (мова дзённіка) дае выдатны матэрыял для роздуму аб гістарычных шляхах Беларусі, аб лёсе яе інтэлігенцыі. Трэба падкрэсліць: Галубовіч не быў у гэтых адносінах нейкім выключэннем. У свой час гэтую ж супярэчнасць як агульную рысу адзначыў у сваіх успамінах сучаснік Галубовіча мінчанін Т. Корзан (вядомы польскі гісторык): "Нават праваслаўнае духавенства, паколькі складалася з асобаў мясцовага паходжання, захоўвала дома польскую мову і звычаі". Так глыбока засела, уелася ў беларускае адукаванае грамадства паланізацыя. Цікавае сведчанне пра складанасці нацыянальнага пытання на тагачаснай Беларусі пакінуў у сваіх успамінах Антоній Зубко, які кіраваў Мінскай епархіяй якраз перад Галубовічам: "Так как преемник мой минский архиепископ Михаил, при утонченности вкуса ко всему изящному, со всеми необыкновенно вежлив и хорошо говорит по-польски, то отсюда поляки заключили, что быть не может, чтобы в душе он был москалем и схизматиком. Более умные поляки, видя в архиепископе Михаиле, под польской оболочкой, твердый дух русского православия и тем более считая его для своих видов вредным, желали бы, чтобы место его заступил менее опытный, менее знающий поляков. В этих видах, может быть, они исподтишка пустили в ход между русскими патриотами мнение, что преосвященный Михаил — поляк..." Складаны малюнак намаляваў Зубко. Ці не прасцей усё тлумачыць беларускасцю Галубовіча, яго няздольнасцю быць ні велікарусам, ні палякам.

Але пара нам пасля ўсіх папярэдніх заўваг ужо заняцца самім дзённікам, пазнаёміцца з яго зместам.

Уважліва прачытаць увесь сшытак я не меў часу. Толькі прагледзеў.

Кожны год у Галубовіча пачынаўся з малітвы і завяршаўся аналізам вынікаў.

Вось і мы калі не з малітвай у поўным сэнсе слова, дык з вялікай ахвотай і надзеяй на адкрыццё, на важную знаходку прыступаем да працы.

Шукаем найперш згадак пра Дуніна-Марцінкевіча. Думалася, што ледзь не на кожнай старонцы буду сустракаць пасажы кшталту: "Заходзіў Марцінкевіч", "Гасцяваў у аўтара "Гапона" і г. д. І вось прагледжана трэцяя частка сшытка — увесь 1858 год, але ніякіх слядоў сяброўства Галубовіча з беларускім пісьменнікам не знаходзім.

Уладыка, як і належыць, сустракаецца найчасцей з кіраўнікамі губернскай адміністрацыі, з губернатарам Келерам, віцэ-губернатарам Лучынскім і г. д. Сябруе з Пушчынымі — мы ведаем, што Пушчыны валодалі маёнткам у Бабруйскім павеце, а Міхаіл Іванавіч Пушчын — колішні дзекабрыст — быў у гэты час камендантам Бабруйскай крэпасці.

Шмат увагі аддаецца прыезду ў Мінск цара Аляксандра II. З Мінска, як вядома, цар накіраваўся ў Вільню. Каб яго сустрэць, сюды, у Мінск, прыехаў нават віленскі генерал-губернатар Назімаў з трыма губернскімі маршалкамі шляхты свайго генерал-губернатарства (віленскім, гродзенскім, ковенскім).

З нагоды аднаго са святаў Галубовіч прыводзіць доўгі спіс людзей, якія яго павіншавалі ў пісьмовай форме (распісаліся па тагачаснай завядзёнцы ў спецыяльнай кнізе або прыслалі віншаванні). Знаходзім знаёмыя прозвішчы (якія зноў жа пішуцца то па-польску, то па-руску): Niesluchowski (бацька Янкі Лучыны, адзін з прызнаных інтэлігентаў тагачаснага Мінска), Павел Малышевич (мінскі журналіст, пісаў і пра Дуніна-Марцінкевіча), Александр Оскерко (мясцовы ліберальны памешчык, пасля адзін з лідэраў партыі "белых" на Беларусі і ў Літве). Але Дуніна-Марцінкевіча няма і тут, у гэтым шырокім, прадстаўнічым пераліку.

1859 год адкрываецца запісам: "З Пушчынымі былі ў Сляпянцы ў Ваньковічаў і вельмі прыемна прабавілі вечар". Сядзіба Ваньковічаў — нашчадкаў знакамітага мастака Валентыя Ваньковіча — захавалася і дагэтуль.

Абсалютна нечаканы запіс ад 10 студзеня: "Уладзіслаў Тупальскі (прыяцель Галубовіча. — **Г. К.**) прывёз мне ад Багрыма (Bahryma) два фран[цузскія] замкі з засаўкамі, для дзвярэй, кожны па 15 р. А таксама стары з дарobленай засаўкай за 3 р. і 3 ножыкі".

Дык гэта ж наш Паўлюк Багрым! Выходзіць, слава каваля Багрыма з Крошына (і не толькі каваля, а віртуознага майстра на ўсе рукі) даходзіла і да Мінска (а гэта, паводле даведнікаў, 127 вёрстаў) і яго паслугамі карысталіся самыя шаноўныя прадстаўнікі эліты губернскага горада. Прычым яго імя названа без якіх-небудзь тлумачэнняў як шырокавядомае. Гэта каштоўная дадатковая рыска да ўсё яшчэ загадкавага жыццяпісу Паўлюка Багрыма, спрэчкі пра якога не сціхаюць ужо добрыя паўтара стагоддзя. Далібог, ужо дзеля гэтага варта было пазнаёміцца з дзённікам Галубовіча.

Ды цікавага тут шмат.

Пад датай 18 студзеня згадваюцца планы правядзення электрычнага тэлеграфа з Вільні на Бабруйск праз Мінск (віцэ-губернатар Лучынскі пазнаёміў уладыку з адпаведнай паперай з Піцера). З гісторыі вядома, што тэлеграфныя станцыі ў Мінску і Бабруйску "открыли действие" ў лістападзе 1859 года.

Цікавы запіс ад 8 сакавіка: "Інспектар Спасовіч толькі што спецыяльна прыязджаў да мяне з весткаю, што газета "Слова" <u>лопнула</u> (падкрэсленае слова напісана па-руску. — **Г. К.**). Рэдактар Агрызка пасаджаны на месяц в <u>крепость</u>, папячыцель універсітэта атрымаў строгі <u>выговор</u> і г. д. Нібыта апала тая наступіла з-за Ляпевеля, які па просьбе прыслаў свой артыкул. Пра тое паведаміў сын Уладзімір".

"Цешуся з гэтага, — працягвае Галубовіч, — бо газета тая мела на мэце толькі польскія <u>вопросы</u>, вельмі ўзмацняла дух палякуючых. Балазе, урад ўсё-такі агледзеўся".

Згаданы тут інспектар губернскай урачэбнай управы беларус Даніла Спасовіч — бацька славутага сталічнага юрыста і літаратуразнаўца Уладзіміра Спасовіча. Пра доктара Спасовіча вельмі цёпла ўспамінаў знакаміты фалькларыст і пісьменнік Павел Шпілеўскі ў сваім нядаўна перавыдадзеным "Падарожжы па Палессі і Беларускім краі". Яго сын Уладзімір Данілавіч належаў да польска-беларускага зямляцтва ў Пецярбургу, уваходзіў у рэдакцыю "Слова" і нават кантактаваў трохі з канспіратыўнымі арганізацыямі, да якіх прымыкалі і браты Каліноўскія.

Забарона польскай прагрэсіўнай газеты "Слова", арышт яе выдаўца Агрызкі (таксама наш зямляк), як вядома, устрывожылі ўсё тагачаснае грамадства (Някрасаў: "Тихо, братцы, беда близко — арестован уж Огрызко"). Як бачым, вестка адразу ж дайшла і да Мінска. 11 сакавіка Галубовіч не ўцярпеў і, каб лепш ва ўсім разабрацца, сам наведаў Спасовічаў: "Чыталі мне ліст Уладзіміра, у якім піша, што апала на "Слово" выклікана інтрыгамі варшаўскіх газетчыкаў..."

Культурныя, у прыватнасці музычныя, навіны пераплятаюцца ў дзённіку Галубовіча з запісамі сацыяльнага плана. 22 сакавіка (год усё яшчэ 1859-ты): "Шыф іграў канцэрт у зале губернатара. Я слухаў у гасцёўні. Выйшаў перад канцом, не развітаўшыся з губернатаршай". 26 красавіка: "Губернатар выехаў у Слуцкі павет у Грэск для ўсмірэння сялян".

Непакоіць уладыку небяспека паланізацыі, спробы польскіх памешчыкаў зблізіцца з народам, перацягнуць сялян на свой бок. 27 жніўня ён пабываў у маёнтку вялікіх князёў у Старым Барысаве і сустрэўся з вялікім князем Мікалаем Мікалаевічам. "Даў яму запіску аб імкненні памешчыкаў вучыць сялян па-польску і пра житомірскае таварыства для выдання кніжачак для сялян, друкаваных польскімі літарамі, і г. д." Размова пра выдавецка-асветныя планы польскага паэта Аляксандра Грозы (пісаў і на беларускія сюжэты) і яго кампаньёнаў у Житоміры. Царскія ўлады з падазрэннем ставіліся да гэтых праектаў.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**(Заканчэнне будзе).**

# «КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ» № 9

Змястоўным і багатым на арыгінальныя матэрыялы стаўся дзевяты нумар "Кантактаў і дыялогаў". Часопіс адкрываецца артыкулам гамяльчан Мікалая Палкаўнічэнкі і Канстанціна Усовіча "Сімволіка на партрэце Скарыны", у якім выкладчык выяўленчага мастацтва і загадчык музея-лабараторыі Ф. Скарыны Гомельскага універсітэта даюць сваё тлумачэнне сімвалам на аўтапартрэце Ф. Скарыны, які, дарэчы, змешчаны на першай старонцы вокладкі згаданага нумара часопіса.

Марыя Костурава-Парашкевава з Сафіі — сябра рады таварыства "Балгарыя — Беларусь" займаецца гісторыяй славянства. Артыкул яе называецца "Адраджэнне традыцый — перадумова існавання славянскага адзінства". Яна адзначае, што, згодна з данымі навуковых даследаванняў, у сучасны перыяд славяне з'яўляюцца самай шматлікай этнічнай супольнасцю ў Еўропе і налічваюць звыш 200 мільёнаў чалавек. Славянскія народы, адзначае аўтар, заўсёды аказвалі падтрымку адзін аднаму ў барацьбе за сваю незалежнасць і самастойнасць, а таксама ўзбагачалі еўрапейскія культурныя традыцыі. Адна з найбольш істотных прычын трывалай прысутнасці славянства ў гісторыка-культурным жыцці Еўропы, на думку аўтара, у вернасці славян традыцыям. Моўная блізкасць паміж славянамі легла ў аснову славянскай літаратурнай садружнасці. Пачуццё славянскага адзінства знайшло сваё яскравае адлюстраванне не толькі ва ўзаемнай барацьбе славянскіх народаў за нацыянальнае вызваленне і самавызначэнне, але і ў агульнай барацьбе супраць фашызму і нацыяналізму, супраць эксплуатацыі і насілля, у барацьбе за мірнае будаўніцтва больш свабоднага, справядлівага і гуманнага грамадства. Аўтар зазначае далей, што ў сучасны перыяд славянскія дзяржавы перажываюць крызіс ва ўсіх сферах грамадскай жыццядзейнасці. Прычына такога стану, верагодна, звязана з тым, што ў канцы XX стагоддзя практычна ва ўсім цывілізаваным свеце пачалі пераважаць каштоўнасці, звязаныя з навукова-тэхнічным прагрэсам, а каштоўнасці гуманізму, маральнасці і духоўнасці чалавека аказаліся адсунутымі на другі план.

У рубрыцы "Адукацыя і культура беларускага замежжа" прафесар Анатоль Грыцкевіч расказвае пра гісторыю ўзнікнення і збору Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лондане, якая была заснавана ў маі 1971 года. Адначасова пры ёй быў заснаваны і музей. У цяперашні час кіраўніком музея і бібліятэкі з'яўляецца айцец Аляксандр Надсон, Апостальскі Візітатар беларусаў-католікаў за мяжой. Бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны ў Лондане сталіся навуковым і грамадска-культурным асяродкам беларусаў замежжа разам з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. Бібліятэкай, асабліва беларускімі газетамі замежжа і Беларусі, карыстаюцца ўсе, хто цікавіцца беларускай гісторыяй, літаратурай і культурай. Усяго тут сабрана і захоўваецца каля 45 тысяч тамоў кніг, камплектаў газет і часопісаў. Большая частка кнігазбору мае дачыненне да Беларусі.

У раздзеле "Постаці культурнага адраджэння" Валянціна Мароз расказвае пра кандыдата філалагічных навук дацэнта Алену Юрэвіч, якая сваё 70-годдзе сустрэла ў ЗША. Жыццё яна прысвяціла беларускай філалагічнай навуцы. Жыццёвыя варункі змусілі яе пакінуць Радзіму ўжо ў пенсійным узросце. Але і на эміграцыі А. Юрэвіч не стаіць у баку ад беларускай справы, застаецца сумленнае навуковае шчыраванне, вынік якога — кнігі, артыкулы, публіцыстыка.

Старонка часопіса прысвечана памяці Міколы Гайдука, які нядаўна пайшоў з жыцця. М. Гайдук жыў у Беластоку, быў сябрам беларускага і польскага пісьменніцкіх саюзаў, педагогам, краязнаўцам, фалькларыстам, руплаўцам на культурнай і царкоўнай ніве. Шматгранная і разнастайная была творчая дзейнасць Міколы Гайдука — паэзія, проза, пераклады, публіцыстыка, у якіх галоўная тэма — духоўна-нацыянальныя патрэбы народа, захапленне багаццем сваёй зямлі, жаданне падзяліцца веданнем і бачаннем падзей мінуўшчыны.

Некалі мы разам вучыліся на беларускім аддзяленні Беларускага дзяржаўнага універсітэта, неаднойчы потым сустракаліся ў Мінску і Беластоку. Смуткуем з прычыны смерці самаахвярнага, таленавітага чалавека і працаўніка. Выказваем спачуванне сям'і нябожчыка.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

# ЛЮБІЦЬ РАДЗІМУ

## РОЗДУМ НАД ПАЭЗІЯЙ УЛАДЗІМІРА КЛІШЭВІЧА

Уладзімір Клішэвіч пражыў нядоўгае жыццё. Нарадзіўся ён у 1917 годзе ў вёсцы Чырванадворцы на Старобіншчыне. Пасля сямігодкі паступіў вучыцца на педагагічныя курсы ў Слуцку, затым працаваў настаўнікам роднай мовы і літаратуры ў вёсцы Божын на Бярэзіншчыне. У гэтай біяграфіі ёсць і рабфак пры Беларускім дзяржаўным універсітэце, і вучоба пасля заканчэння рабфака ў Мінскім педагагічным інстытуце на літаратурным факультэце (з 1933 года). Вучыўся разам з Масеем Сяднёвым, Сяргеем Дарожным, Тодарам Кляшторным, Тодарам Лебядой, Кастусём Суднікам. Маладыя людзі былі акрылены надзеяй на лепшае будучае, хаця свядомасць ужо была атручана злавеснымі падзеямі — пачаліся арышты. Асабліва цяжкае становішча склалася на літаратурным факультэце, дзе вучылася моладзь таленавітая, а значыцца — бунтоўна настроеная, звыклая да свабоды выказванняў і дзеянняў. Сярод іншых быў арыштаваны і Уладзімір Клішэвіч. Пасля мінскай турмы "амерыканкі" была далёкая Калыма — суцэльная белая пустыня, цаліна, цішыня і маўклівасць, лагерны калючы дрот, рэдкія стрэлы і лаянка канваіраў пры пераходах вязняў з баракаў на месца працы.

14 жніўня 1941 года паэта разам з Масеем Сяднёвым вяртаюць у Мінск на перасуджванне і трымаюць у турме да 27 чэрвеня. З-за кратаў яго "вызваліла" Вялікая Айчынная вайна. У гэтыя віхурныя, крывавыя гады ён працуе ў "Газеце Случчыны", друкуе свае творы і ў іншых перыядычных выданнях, што існавалі пры немцах, — "Беларускай газэце", "Голасе вёскі", "Раніцы", часопісе "Новы Шлях", намеснікам рэдактара якога быў беларускі паэт Алесь Салавей. Захаваліся звесткі, што ў 1943 годзе У. Клішэвіч "разам з прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі", прэсы наведаў фашыстоўскую Германію, Берлін і іншыя гарады ў ёй. У гэтым самым годзе на радзіме паэта ў горадзе Слуцку выходзіць зборнік "Песняры Случчыны" з вялікай падборкай яго вершаў. Зборнік ніколі ў савецкай крытыцы і літаратуразнаўстве не згадваўся, таму пра яго грамадскасць рэспублікі і не ведае. У кнізе змешчаны таксама вершы Лявона Случаніна, творы Янкі Золака, прасякнутыя ідэяй вернасці свайму народу і краю.

Далейшы лёс Уладзіміра Клішэвіча нічым не адрозніваецца ад лёсаў іншых мастакоў-эмігрантаў, што не па сваёй волі аказаліся ля чужых берагоў. Спачатку, з 1944 года, паэт жыў у Германіі, затым — у ЗША. За мяжой выдаў кнігу паэзіі "Далячынь" (Саўт-Рывер, 1964), паэму "Васіль Каліна" (Лондан, 1965). Эміграцыя, як і колішняя нямецкая акупацыя, радасці не прынесла. У пасляваенны час ён двойчы наведаў Радзіму, пакінуў на ўспамін чытачам кніжку "Сняцца сны мне залатыя" (Мінск, 1973) з балючым прызнаннем ва ўступе: "Той, хто адарваўся ад сваёй Радзімы, асуджае сябе на паступовае духоўнае выміранне. У чужой краіне нашы дзеці яшчэ гавораць на роднай мове, а ўнукі падпадаюць пад поўную асіміляцыю".

Думаецца, што ўзаемаадносіны Уладзіміра Клішэвіча з іншымі беларусамі-эмігрантамі таксама складваліся нялёгка — і з-за гэтага наведвання савецкай Беларусі, і з-за выдання на Радзіме брашуркі, у якой былі змешчаны на сённяшняе разуменне наіўныя, кан'юнктурныя выказванні тыпу: "Мая Радзіма дасягнула такіх вялікіх поспехаў на гаспадарчай і культурнай ніве таму, што стала на сацыялістычны шлях развіцця". Падобнага "калабарацыянізму" не маглі дараваць, бо на чужыне склалася зусім іншая канцэпцыя нашага сацыялістычнага выбару, зусім іншае разуменне таго, куды мы ідзём і якія нашы дасягненні. Як кажуць у такім выпадку, паэт не трапіў у цэнтр асноўнага струменю эміграцыйнай думкі і застаўся ўзбоч той крыжовай дарогі, якой разам з ім ішлі многія, калі не ўсе, сябры па няшчасці. Аднак у данай сітуацыі няхай разбіраюцца гісторыкі, тым больш, што настаў час перагляду і пераацэнкі мінулага.

Не стала пісьменніка ў 1978 годзе. Пахаваны ён на чужыне, далёка ад роднага краю, шанаваць і помніць які так горача заклікаў.

Творы яго — балючыя, крыху сцішаныя, унутрана напружаныя, дынамічныя, страсныя — ужо гісторыя, і яны сведчаць самі за сябе. Адасобіўшыся ад імя свайго стваральніка, яны, падобна караблям (А. Куляшоў), плывуць у Акіян Вечнасці. Можа, не ўсе і даплывуць, аднак след пасля сябе пакінуць. І даволі значны, прыкметны.

Творчасць Уладзіміра Клішэвіча ўмоўна можна падзяліць на два перыяды: 30-х — 40-х гадоў (да вайны паэт не выдаў асобнага зборніка твораў) і эміграцыйны. Да першага перыяду адносяцца вучнёўскія спробы выказаць адносіны да жыцця і прыроды, навакольнага свету, адкрыць чытачу асабістыя перажыванні.

Аднак больш салідна, на значнай мастацкай вышыні выказаў сябе мастак у творах ваеннай пары. Ягоныя вершы гэтага часу змешчаны ў адносна поўным аб'ёме ў згаданым вышэй зборніку "Песняры Случчыны", які ён сам складаў і рэдагаваў. Адразу кідаецца ў вочы іх тэматычная разнастайнасць: ёсць вершы і пра турму ды Калыму ("Васілёк", "Жураўлі", "Гусі"), і творы-згадкі ранніх дзіцячых і юнацкіх уражанняў ("Званы", "1931"), і, канешне ж, пра вайну і паняволены край і народ ("Беларускаму народу", "На ўсходзе хмары чорныя праходзяць..."). Рытарычных, "халодных", урапатрыятычных, зададзеных радкоў мала; толькі ў пачатковым, што адкрывае зборнік, вершы "Беларускаму народу" паэтаў голас гучыць на высокай хвалі, не зусім натуральна:

**Сам народ заўсягды**
**сваё шчасце куе.**
**Край збудуем сваімі рукамі.**
**Дык бяры ты жыццё сёньня**
**ў рукі свае,**
**Каб сыны не былі**
**жабракамі.**

Астатнія ж вершы ўражваюць засяроджанасцю душэўнага перажывання, сцішанасцю інтанацыі і паглыбленнем у асабістыя перажыванні. Аўтар нешматслоўны, ён шукае агульначалавечыя каштоўнасці ў тых падзеях (найперш трагічных), што адбываліся ў нашай краіне перад вайной і пазней, калі вайна запалымнела ў нашым краі. У творах Клішэвіча гэтай жанрава-стылёвай групы быццам збіраюцца пад адзін дах традыцыйныя вобразы-сімвалы ("разгубленая душа", "магіла", "цемра", "тужлівая восень", "вечар"), тропы трагедыйнай змястоўнасці. Гэта ўласціва і вершам-роздумам "Учора краскамі разгубленай душы...", "Напаткаў я даўно тую восень...". Першы з іх уражвае больш, найперш — цэласнасцю настрою. Паэту хочацца пераадолець часовы духоўны крызіс, узняцца над абставінамі, акрыяць, паверыць у перамогу жыцця над чорнымі сіламі:

**Учора краскамі**
**разгубленай душы**
**Вясна жыцьця майго**
**адкрасавала,**
**Каб боль душы і сэрца**
**заглушыць,**
**Няхай братоў загінула**
**нямала**
**За волю Бацькаўшчыны**
**ў змрочны час,**

**Як у краі няволя панавала,—**
**У целе ёсць хоць змучаная**
**сіла.**
**Устань, народ! Каб волі**
**сьвет ня згас,**
**Каб зноў к табе не**
**падыйшла магіла.**

У гады вайны, як і Пімен Панчанка, Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, якія напісалі цудоўныя творы пра загубленыя вайною чалавечыя душы, пра слёзы маці над сынавай кашуляй, Уладзімір Клішэвіч таксама ахарактарызаваў надломлены духоўны стан людзей — сведкаў адразу дзвюх трагедый — даваенных рэпрэсій і ваеннага спапялення.

Чытаем верш "Актава" і зноў пераконваемся, што ў гады вайны дамінантным у паэзіі Клішэвіча быў элегічны настрой і адпаведны яму сентыментальны пафас. Паэт не ўзняўся да сінтэзу разнастайных пачуццяў у такой ступені, як Арсеннева, Салавей, Куляшоў. Аднак ішоў ён шляхам паступовага наближэння да ісціны, адкрытай яго больш таленавітымі сучаснікамі, спрабаваў свае сілы ў розных стылёвых плынях і жанрах.

Згаданы верш "Актава" вытрыманы ў мажорнай інтанацыі і падобны да оды. Яго апошні радок атрымае новае, маштабнае напаўненне ў ёмістай формуле Жэні Янішчыц пра "шум жытняга святла" як першааснову чалавечага жыцця:

**Бяры сваё, але трымай**
**надзею**
**І вер, што ты народжаны,**
**каб жыць.**
**Ніколі ў полі краскі**
**не радзеюць,**
**Калі над імі вецер**
**прабяжыць.**

**Любі жыцьцё, любі яго**
**завею...**
**У сэрцы сум яны тваім**
**разьвеюць**
**І скажуць так: "Далёка**
**не хадзіце,**
**Бо шчасьце тут, у нашым**
**сьпелым жыце".**

Чаго не хапала паэзіі ваеннай пары, дык гэта філасафічнасці. Яна (савецкі варыянт) найперш імкнулася выгукнуць свой боль на поўны голас. І не толькі боль, але і нянавісць, і веру ў тое, што фашысцкая навалач мінецца. Публіцыстычнасць і — часта — рытарычнасць падменьвалі, перакрывалі ўсё астатняе і тым самым перашкаджалі аўтарам паглыбіцца ў сферу інтымнага, асабістага і на гэтай глебе — агульначалавечага. Бадай, толькі тыя, хто прадчуваў свой блізкі канец, хто пайшоў на вайну, "не дакахаўшы, не дасмаліўшы апошнюю цыгарку", — Алесь Жаўрук, Леанід Гаўрылаў, Аляксей Коршак ды тыя, хто глядзеў на вайну як бы з сярэдзіны, перажываючы сваю асабістую трагедыю ад немагчымасці актыўнага далучэння да навальнічных падзей (Аркадзь Моркаўка), здолелі па-філасофску глыбока ацаніць касмічную, агульнапланетарную маштабнасць падзей ваеннага часу. Яны перавялі тэму вайны ў спавядальна-ацэначны план, вырваліся на прастор даследавання вайны як антыгуманнейшай з'явы, што зробіць літаратура толькі ў 60-я — 90-я гады, ужо не па свежых слядах падзей.

Сказанае лёгка пацвярджаецца аналізам верша У. Клішэвіча "Ноч", ці не самага глыбокага ў падборцы са згаданага зборніка "Песняры Случчыны".

**Запылала у гневе Карона**
**На увесь неабсяжны**
**прастор,**
**Каб спаліць грозны меч**
**Арыёна**
**Пералівам мігаючых зор.**

**Пояс зьняў з сябе**
**рыцар суровы —**
**Востры меч над Каронай**
**павіс...**
**Пакаціліся зорак галовы**
**Залацістымі зьнічкамі ўніз.**

**Мог ён толькі здалёку**
**разгледзець,**
**Як засмучаны лёсам бяды**
**З песьняй сумнай паплыў**
**белы Лебедзь**
**У сінеючых хвалях вады.**

**Меч халодны гарыць**
**Арыёнаў...**
**Кволы сьпеў лебядзіны**
**заціх.**
**У расе срэбных кропель**
**Карона**
**Мые косы праменьняў**
**сваіх.**

Паэт нібы пераносіць ваенныя падзеі ў бязмежную прастору і вымярае іх маштабнасць незямнымі крытэрыямі, што рабіў у ваенны час і Аркадзь Моркаўка, а пазней будуць рабіць і Максім Танк, і Аркадзь Куляшоў. Да такога ж мастацкага прыёму пашырэння прасторы дзеяння звярнуўся ў рамане "Млечны шлях" Кузьма Чорны. Верш Уладзіміра Клішэвіча нагадвае прытчу: вайна на зямлі не ўкладваецца ў вузкія рамкі, гэта злачынства касмічнага маштабу.

Для Уладзіміра Клішэвіча не было большай трагедыі, чым вайна, якую ён востра перажываў, пакутаваў, усведамляючы ўласную адчужанасць ад гераічна-трагедыйных падзей таго часу. Адсюль вынікалі радкі, поўныя непадробнага болю і пакуты.

З шэрагу ваенных твораў вылучаецца верш "Напаткаў я даўно тую восень...", які варта прывесці і расшыфраваць (дарэчы, публіцыстычна-рытарычныя творы ваеннай пары не патрабавалі расшыфроўкі, свабодна ўкладваліся ў схемы, стандарты: фашысты — зладзеі, ка́ты, савецкія людзі — патрыёты, героі):

**Напаткаў я даўно тую**
**восень,**
**Якой панцыр на сэрца**
**пашыў,**
**Каб прайсьці па крывавым**
**пакосе**
**Цьвёрдым крокам**
**халоднай душы,**

**Каб людзей разбудзіць**
**звонам сталі,**
**Паднявольным жыцьцём**
**хто заснуў,**
**Каб жывыя шчасьліва усталі**
**Сустракаць і цяпло, і вясну.**

**Няхай будзе тужлівая**
**восень**
**Яшчэ радасьць у сэрцы**
**тушыць —**
**Трэба йсьці па крывавым**
**пакосе**
**Цьвёрдым крокам**
**халоднай душы.**

Пры першасным знаёмстве з творам з'яўляецца ўражанне, што думка, выказаная ў ім, элегічная: сапраўды, калі мастак паставіў перад сабой задачу абудзіць свядомасць народа, разбудзіць яго сон, дык пры чым тут пашыты на яго сэрца панцыр? Якую восень прыгадвае аўтар (твор датуецца 1943 годам)? Восень 1941 года? А можа, 1936-га, калі яго арыштавалі? Якую восень ён так неміласэрна не прымае? Яшчэ больш расчароўвае паварот аўтарскай думкі, заключаны ў радках "Трэба йсьці па крывавым пакосе Цьвёрдым крокам халоднай душы". "Крывавы пакос" — гэта зразумела: пакос вайны, што абрынулася на нашу шматпакутную Радзіму. Але чаму па гэтым "крывавым пакосе" (вобраз, які нібыта перайшоў у твор Уладзіміра Клішэвіча з неўміручага "Слова пра паход Ігараў") пясняр павінен ісці цвёрдым крокам? Як апраўдаць алагізм яго паводзінаў? Ці не наадварот адбываецца ў рэальным жыцці, калі паэтава душа ўбірае ў сябе велізарны чалавечы боль і часам не вытрымлівае, разрываецца ад яго? Пытанні з боку чытача. А сам аўтар і не задумваўся над тым, якія радкі канчаткова выйшлі з-пад яго пяра. Ён як бы адкаснуўся, адхінуўся ад створанага іншымі, ад агульнага, тыповага перажывання вайны-трагедыі і прапанаваў сваю версію ўдзельніка жахлівых падзей — чалавека, адзінокага сярод разбурэння, сярод ахвяраў, палеглых у крывавых пакосах, песняра са скамянелым ад болю сэрцам ("скамянелае сэрца", "скамянелая душа" тут былі б якраз на месцы, у паэта — "халодная душа"). І ў такім павароце лірычнага перажывання — наватарства Уладзіміра Клішэвіча. Наватарства пераадолення стэрэатыпу, створанага літаратурай, які ўмоўна можна ахарактарызаваць прыкладна так: чым большы боль, тым больш трымціць і палымнее паэтава душа.

Так мы расчыталі-расшыфравалі адзін з самых складаных у сэнсавых адносінах верш паэта-змагара. Аднак у першы перыяд сваёй творчасці У. Клішэвіч прытрымліваўся ў асноўным іншага — "адкрытага" стылю, паказваў рэчаіснасць у адной плоскасці, празрыста-ясна, даступна-зразумела. Так, як у вершах, напісаных у вязніцы-турме нібыта спецыяльна пад фальклор — напеўна, меладычна:

**Ой, вазьмеце, гусі, з сабой**
**на хвіліну,**
**Бо ў мурох я гэтых без пары**
**загіну.**
**. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .**
**Не сказалі слова, замаўчалі**
**самі,**
**Гаманілі сумна сосны з**
**верасамі.**

У асобных творах першага перыяду творчасці Уладзіміра Клішэвіча адчуваецца залежнасць ад лірыкі Сяргея Ясеніна, чуецца сумна-тужлівы напеў-скарга яго лірычных песняў пра пакінутасць чалавека ў разбураным свеце, адзінокасць яго душы. Як і рускаму паэту, нашаму мастаку хочацца паспавядацца перад іншымі жывымі істотамі — людзьмі і дрэвамі, звярамі і птушкамі. Нават рытм, інтанацыя ясенінскіх шэдэўраў паўтараецца, капіруецца беларускім аўтарам:

**Выйду рана з дому.**
**Абніму каліну,**
**Раскажу ёй ціха аб**
**сваёй бядзе,**
**Што далёка дзесьці**
**маладосць пакінуў,**
**Што яе ніколі**
**не знайду нідзе.**

**Мікола МІШЧАНЧУК.**

**(Заканчэнне будзе).**

*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ — РУПНЫ СЯБРА МІЦКЕВІЧАВА КАМІТЭТА*

# І ЯГОНЫМІ КЛОПАТАМІ...



Афіцыйная ўлада ліхаманкава рыхтавалася да адкрыцця помніка Мураўёву. Уся сумленная Вільня аж віравала з гэтай ганебнай нагоды, плявалася і абуралася. Многія віленцы яшчэ добра памяталі крывавыя расправы гэтага шыбеніка і ка́та. І вось яму ўжо ў самым сэрцы Літвы, на самым прыгожым пляцы перад губернатарскім палацам, муруюць падмурак пад помнік. Горшай абразы для віленцаў, здаецца, прыдумаць было нельга. Многія пакутліва ламалі галовы, што можна супрацьпаставіць гэтай нечуванай абразе.

Доўга раіліся, разважалі. Былі розныя прапановы. Але ўсе яны былі на тую пару непрымальныя. І вось неяк аднаго разу малады тады яшчэ, але вельмі паважаны віленскі газетны рэпарцёр Люцыян Уэмбла ўспомніў, што набліжаецца сотая гадавіна з дня народзінаў Адама Міцкевіча, вялікага песняра волі, бунтоўнага духу і змагання.

Усе шчыра падтрымалі гэтую прапанову, ухвалілі яе, і ўжо ўлетку 1897 года быў створаны нелегальны юбілейны Міцкевічаў камітэт. У яго ўвайшоў і наш славуты адвакат і пясняр Францішак Багушэвіч. Ён стаў самым рупным сябрам гэтага камітэта. З першых жа дзён распачаў збор грошай сярод сваіх знаёмых, далучыў да гэтага высакароднага клопату і Элізу Ажэшка з яе любымі гродзенцамі. “Сэрцы добрых людзей, адданых Вяльможнай Пані, будуць прыхільныя і да гэтай справы,” — пісаў ён Ажэшка — Каралеве жывога слова — 18(30) кастрычніка 1897 года.

Адам Міцкевіч для Багушэвіча быў не проста вялікі польскамоўны паэт. Ён лічыў яго і песняром беларускага краю. Ведаў вытокі яго натхнення і творчасці. А вытокі гэтыя з беларускіх крыніц, з тых жа крыніц, з якіх чэрпаў сваё натхненне і ён, Багушэвіч. Усё гэта вельмі імпанавала Багушэвічу. Ён знаходзіў у Міцкевічавай паэзіі, у яго поглядах на беларускі народ і яго мову поўнае сабе сугучча. Таму думка пра ўшанаванне Міцкевіча так моцна апанавала яго. У тое ж лета 1897 года ён зладзіў падарожжа ў Коўна, дзе, ведаў Багушэвіч, пасля сканчэння універсітэта працяглы час жыў Адам Міцкевіч. І яму захацелася ў перад'юбілейны год прайсціся сцежкамі любага паэта. Ён плыў апетымі Адамам Міцкевічам Віліяю і Нёманам, хадзіў па тых сцежках і вулачках, па якіх хадзіў калісь паэт. У Коўне яму паказалі гімназію, дзе працаваў Міцкевіч, крынічку на левым беразе маляўнічай рачулкі Гірступіс, з якой паэт частаваў сваіх гасцей сапраўднай крынічнай вадой, пры гэтым кожнага разу казаў: “Піце, другі, хай нашы сэрцы будуць такія чыстыя, як вада з гэтае крыніцы”. Расказвалі і пра іншыя моманты з жыцця Міцкевіча ў Коўне. Зазірнуў Багушэвіч і ў доўгую прызямістую ковенскую пакрыўленую хаціну на два канцы з маленькімі вокнамі, у якой кватараваў Міцкевіч, дзе напісаў пры святле міргатлівых васковых свечак шэраг сваіх выдатных твораў: “Гражыну”, “Свіцязанку” і “Курганок Марылі”, “Песню філарэтаў”, “Оду маладосці” і іншыя. Не раз і не два ў Коўне Міцкевічава паэзія абуджалася ў Багушэвічавай душы, асабліва калі ён цешыўся так званай Міцкевічавай далінаю і зліццём Нёмана з Віліяй.

**Вілію Нёман гвалтоўна хапае,**
**Цісне ў абдымках, нясе у прасторы**
**І да грудзей ледзяных прыхінае,**
**Гіне з ёй разам у бездані мора.**

З Коўна Багушэвіч вярнуўся поўны самых розных уражанняў і яшчэ з большым імпэтам і шчырасцю пачаў рупіцца пра збор сродкаў на помнік Міцкевічу. Шмат каго Багушэвіч далучыў да гэтага высакароднага клопату. Ахвяраваліся на помнік не толькі людзі творчай думкі, але і рамеснікі, кухаркі, швачкі, рамізнікі. Праўда, зборы гэтыя былі не вельмі вялікія, але затое шматлікія. “Нам такія і трэба!” — патэтычна пісаў Багушэвіч. І сам не раз ахвяраваўся. Ягонае імя тройчы згадваецца ў спісе камітэцкага скарбніка Казіміра Панятоўскага. З тымі ж, да каго грошы прыходзілі лёгка і гэтак жа лёгка марнаваліся, юбілейны Міцкевічаў камітэт сувязі не меў. Гарадская ўправа цалкам была захоплена Мураўёвым. Неўзабаве на помнік Міцкевічу было сабрана 4 648 рублёў. Грошай гэтых якраз хапала для выплаты заказу. Зборы на помнік рабіліся патаемна, у строгім сакрэце, нібыта на магільны надгробак.

Камітэтчыкі спяшаліся. Помнік Міцкевічу хацелася закончыць раней за мураўёўскі. І ў гэтым быў свой сэнс, свой палітычны падтэкст.

Усе з нецярплівасцю чакалі яго завяршэння. Члены камітэта часта збіраліся на свае рады, абмяркоўвалі праекты і каштарыс помніка. Аднаго разу сабраліся на Багушэвічавай кватэры ў доме Казлоўскага, абмеркавалі ліст мастака Русецкага, які паведамляў з Кракава аб выкананні заказу. Магчыма, што Багушэвіч, як гаспадар, кіраваў тым пасяджэннем. Ён з трапяткім хваляваннем, можа больш за іншых, чакаў гэтай урачыстай Міцкевічавай хвілі, але ўвесну 1898 гоад захварэў і мусіў пераехаць з Вільні ў Кушляны. Але і там, моцна хворы, ён ні на хвіліну не пераставаў думаць пра адкрыццё помніка Міцкевічу. Калі-нікалі ў Кушляны прыязджалі з Вільні сябры і расказвалі яму, што ў іх робіцца. Багушэвіч усцешна слухаў іх расказы, пытаўся, што новага чуваць з Кракава, як будзе выглядаць помнік — высокая, метраў на пяць, мармуровая стэла з бюстам, дзе яго паставяць — і з большага быў задаволены.

Помнік Міцкевічу меркавалася прыхінуць пад страхой касцёла святога Яна, пры сцяне ля самага алтара. Касцёл святога Яна быў вельмі старажытны. Яго заснаваў кароль Ягайла ў 1388 годзе. Закончылася будаўніцтва ў 1426 годзе. Лічыўся універсітэцкім, самым людным. Гэта таксама цешыла Багушэвіча: Міцкевіч заўсёды будзе сярод моладзі, якую ён самааддана любіў і якой аддаў свае лепшыя парыванні душы. Багушэвіч спадзяваўся, што да адкрыцця помніка ён усё ж акрыяе, стане на ногі, але надзеі яго не спраўдзіліся. Помнік адкрывалі без яго, адкрывалі ціха, без асаблівай урачыстасці. Міцкевічаву ўрачыстасць захліснуў Мураўёў. Багушэвіч ведаў пра гэта і моцна перажываў, што агідная мураўёўская постаць засланіла Міцкевічаў юбілей. І ўсё ж ён радаваўся, што ім удалося наперакор усёй афіцыйшчыне і юбілейнаму мураўёўскаму чаду, хоць і сціпла, але ўсё ж адсвяткаваць сотую гадавіну Вялікага Адама.

...Той помнік, што створаны намаганнямі тысяч простых і шчырых людзей, на “ўнёскі малыя, але шматлікія”, у якім сардэчна зліліся парыванні “сляznакаў з жмудзінамі, падлясякамі, беларусамі і татранскімі горцамі”, стаіць і зараз у тым жа касцёле святога Яна, які абноўлены да 400-годдзя Віленскага універсітэта і зноў адкрыты для набажэнства. У яго бела-ружовым, аздобленым пазалотай мармуры адчуваем мы душэўнае цяпло і рупнасць і нашага песняра Францішка Багушэвіча.

***

Ёсць у Францішка Багушэвіча цікавы верш. Называецца ён “Spieu” — “Спеў”. Гісторыя верша такая. Як ужо згадвалася, Францішак Багушэвіч летам 1897 года наведаў Коўна. Сярод ковенскай творчай інтэлігенцыі ў канцы мінулага стагоддзя быў абвешчаны конкурс на лепшую турыстычную песню для моладзі. У конкурсе прыняў удзел і Францішак Багушэвіч.

Наш паэт, наш пясняр перамог у гэтым конкурсе. Яго твор быў прызнаны лепшым. Хтось з музыкаў напісаў на яго мелодыю, і ковенская моладзь з любасцю распявала песню на Багушэвічавы словы. Гэта была патрыятычная песня. У ёй аўтар клікаў брацць у рукі кій дарожны і ісці край свой вывучаць.

У гэтай сваёй песні Францішак Багушэвіч згадвае і шэраг імёнаў, якія трэба шанаваць, спазнаваць. Сярод іх — Чачота, Пачобута, Тамаша Зана...

Прачытаўшы гэтыя імёны, асабліва Чачота і Тамаша Зана, міжволі згадваеш: Чачот і Зан былі Міцкевічавы сябры, ягоныя пабрацімы. І міжволі ў галаву прыходзіць такое пытанне: “А чаму гэта Францішак Багушэвіч, згадаўшы Чачота і Тамаша Зана, не згадаў Міцкевіча?”

Мабыць, толькі таму, што яно было слыннае на Беларусі. Яго ведалі ў кожным доме, у кожнай хаце. А ён запрашаў у вандроўку на спазнанне слаўных сыноў нашай зямлі, малавядомых і забытых. Вось чаму ён і не згадаў Міцкевіча ў вядомым сваім вершы, хоць ён быў натхнёны яго імем пасля наведання Коўна.

Між іншым, Багушэвічава Прадмова да “Дудкі Беларускай”, калі добра падумаць, нібыта бярэ выток з выказвання Адама Міцкевіча пра Беларусь і беларускую мову. Прыгадаем, параўнаем:

“Чытаў я ці мала старых папераў па дзвесце, па трыста гадоў таму назад пісаных у нашай зямлі і пісаных вялікімі панамі а нашай мовай чысцюсенькай, як бы вот цяпер пісалася...

...Нас жа не жменька, а шэсць мільёнаў...

...Мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо іншая якая... Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам...

Можа хто спытае: гдзе ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мазыра, ад Віцебска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Міньск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...” Гэта Багушэвічава слова. І вось што сказаў пра нашу мову Адам Міцкевіч у сваіх лекцыях па славянскіх літаратурах, якія ён чытаў у Парыжы:

“З усіх славянскіх народаў русіны, гэта значыць, сяляне Пінскай, часткова Мінскай і Гродзенскай губерняў захавалі найбольшую колькасць агульнаславянскіх рыс. У іхніх казках і песнях ёсць усё.



Пісьмовых помнікаў у іх мала. Толькі Літоўскі Статут напісаны іхняй мовай, самай гарманічнай, з усіх славянскіх моў найменш змененай.

На беларускай мове, якую называюць русінскай альбо літоўска-русінскай, гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек, гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана...” У час незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

**НА ЗДЫМКАХ: стэла з бюстам Адама Міцкевіча ў Віленскім касцёле святога Яна; Ф. Багушэвіч з сям'ёй з пары ягоных клопатаў пра ўшанаванне памяці Адама Міцкевіча. Кушляны. 1898—1899 гады.**

# ВЕЧНАСЦЬ, ТАЛЕНТ І ПРАЦА

Вечнасць, талент, час, праца і зноў вечнасць. Нябачнай ніткай звязаны гэтыя словы паміж сабой, а своеасаблівы сэнс набываюць, калі адносяцца да чалавекатворцы. Мне падаецца, што да скульптара Эдуарда Астаф'ева яны маюць непасрэднае дачыненне.

Вечнасць... Неяк ён сказаў, што апошнім часам яго не пакідаюць думкі пра суіснаванне наша ў Сусвеце, пра жыццё на Зямлі і месцы ў ім кожнага чалавека, асобы як у мінулым, так і ў сённяшнім часе. І гэта, відаць, заканамерна, таму што творы, якія нараджаюцца ў яго душы, а пасля ўвасабляюцца ў дрэве, метале і камені, з'яўляюцца таксама часцінкай вечнасці, толькі ўжо ў крыху іншай катэгорыі. Калі зірнуць на работы скульптара, што зроблены ім на працягу двух



дзесяткаў гадоў, то можна пераканацца: дыяпазон яго інтарэсаў і тэм даволі шырокі і разнастайны. Ад манументальных помнікаў героям і ахвярам Вялікай Айчыннай вайны да маленькіх юбілейных медалёў Ф. Скарыне, К. Каліноўскаму. А. Куляшову, ад невялікіх скульптурных кампазіцый з паэтычнымі назвамі “Танец сонца”, “На роднай староньцы”, “Зорка Венера”, “Старыя пісьмы” да партрэтаў вядомых людзей.

З многімі працамі скульптара мы сустракаемся даволі часта, прычым не ў музеі ці на выставе, а на вуліцах нашых гарадоў і вёсак. Я маю на ўвазе мемарыяльныя дошкі, каля якіх праходзім, чытаем надпіс, а вось аўтар застаецца невядомым. У Мінску і Гародні, у Цімкавічах, Малой Багацькаўцы і Кушлянах размешчаны на фасадах дамоў памятныя знакі М. Багдановічу, П. Пестраку, К. Кірэенку, акадэміку Н. Прыляжаеву, генералу М. Паўлоўскаму, К. Чорнаму, М. Гарэцкаму, Ф. Багушэвічу і многім іншым.

Мне даводзілася сустракцца з Эдуардам Барысавічам падчас яго працы над стварэннем памятнага знака і мемарыяльнай дошкі для музея К. Чорнага ў Цімкавічах. Ён вельмі ўважліва пазнаёміўся з біяграфіяй і творчасцю вялікага празаіка, пабываў некалькі разоў на яго радзіме, пазнаёміўся з дачкой пісьменніка, наведаў музей і толькі тады прыступіў да непасрэднай працы над вобразам. Работа атрымалася цікавай.

Спалучэнне таленту і працавітасці, філасофскага падыходу да тэм, чалавечай дабрыні і любові, што ідзе нават ад металу і каменю, у якія ўвасоблены вобразы, паступова прывялі майстра да галоўнай работы ў яго жыцці і творчасці. 31 кастрычніка 1996 года ў цэнтры Прагі, недалёка ад рэзідэнцыі прэзідэнта Чэхіі, быў устаноўлены помнік нашаму слыннаму земляку, першадрукару, асветніку Францішку Скарыне. Яго аўтары — скульптар Э. Астаф'еў і архітэктар Ю. Казакоў.

Яшчэ ў пачатку 80-х звярнуўся Э. Астаф'еў да вобраза Ф. Скарыны. І атрымалася так, што прайшоў з ім скульптар шлях ад юбілейнага медаля да помніка ў чэшскай Празе.

Гэты горад у пачатку XVI стагоддзя прыхінуў невядомага тады юнака з Полацка і аказаў яму дапамогу. А яму суджана было даць вядомасць не тольмкі сваёй радзіме, але і назаўсёды ўславіць чэшскую зямлю, зрабіць яе блізкай і дарагой беларусам, бо і апошні свой прытулак наш зямляк знайшоў там, у далёкай, але відаць, ветлай Празе.

З асаблівым хваляваннем успамінае зараз Эдуард Барысавіч працу над помнікам, складанасці з вырашэннем пытання адносна яго ўстаноўкі і моманту адкрыцця. Праглядаючы касету з відэазапісам тых падзей, у час прэзентацыі персанальнай выставы ў Музеі сучаснай скульптуры імя А. Бембеля, ён жартаваў: “Вы толькі не звяртайце ўвагі на мае слёзы...”. А былі там скупыя мужчынскія слёзы радасці, хвалявання і гонару.

У гэтым годзе Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры вылучыў работу Эдуарда Астаф'ева на ўдзел у конкурсе на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Гэта, безумоўна, важна для творцы, але яшчэ важней тое, што ёсць новыя задумы, што імчаць у вечнасць дзень за днём, і працягваецца жыццё.

**Лідзія МАКАРЭВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: помнік Ф. Скарыне ў Прозе.**

З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ

# У ВЯЧЭРНЯЙ ЭЛЕКТРЫЧЦЫ





Анатоль ЗЭКАЎ

1

Змрок спакваля ваколле
чэрніць.
Як вулей той, вакзал гудзе.
І раптам на перон вячэрні
правеецца зычны кліч: "Ідзе!"
Падхопяць хатулі бабулі:
хутчэй, хутчэй — хаця б
паспець!
А ўзбоч юнак дзяўчыну туліць:
не адарвацца — хоць не едзь.
Вакзал усхліпвае й смяецца:
І гоман тут, і ўздых, і ўскрык,
пакуль нарэшце не кранецца
і не пачне свой бег цягнік.

2

Грукочуць колы электрычкі,
нітуючы вярсту з вярстой.
А пасажыры —
люд прывычны:
у кожнага з іх клопат свой.
Дзяўчына зазірне
ў люстэрка —
нібы камусьці падмігне.
Пра што ёй марыцца цяперка,
наўрад ці здагадацца мне.
Цячэ гамонка ручайная.
Адзін сышоў — другі падсеў.
Хлапчук, бабуля ці дзяўчына,
яны тут пасажыры ўсе.
Хто ціха дрэмле, хто
з прысвістам,
хто ў карты ставіць лёс на кон...
Ды ўвойдуць раптам
баяністы —
і песня ўскалыхне вагон.
А там, глядзіш, за песняй
следам
абудзіць іншы голас слых:
"Купіце свежую газету!
Няма нідзе газет такіх!"
...Бяжыць-грукоча
электрычка,
нітуючы вярсту з вярстой.
Ах, пасажыры!
Люд прывычны!
У кожнага з іх — клопат свой.

Фота Віктара СТАВЕРА.





З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# МАГІСТР ЭПІЧНАЙ ПРОЗЫ

У выдавецтве "Мастацкая літаратура" толькі што выйшла ў свет новая кніга Генрыха Далідовіча "Заходнікі". На яе старонках надрукаваны раман "Заходнікі", аповесць "Жывы покліч", апавяданні "Іста" і "Жыццё-быццё".

Гэта кніга — адчувальны крок у творчым развіцці празаіка. Яна пазначана высокай культурай пісьма і творчага мыслення. Яе мова — папулярная, жывая і эмацыянальная, вызначаецца публіцыстычнасцю.

У рамане "Заходнікі" грунтоўна і яскрава адлюстравана суровая праўда пасляваеннага жыцця людзей Заходняй Беларусі. Месца дзеяння твора — вёска Янкавіны і яе ваколіцы. Янкавіны — тыя ж родныя Генрыху Далідовічу Янкавічы. Тым самым і на гэты раз аўтара не адпускаюць ад сябе яго родныя мясціны, ён па-ранейшаму застаецца мастацкім летапісцам іх. Ён паказвае простых людзей, якім трэба не толькі стаць на ногі, дбаць пра дзяцей, унукаў, але і намагацца ацалець. Паказваючы сваіх землякоў як герояў рамана, Г. Далідовіч закранае самыя розныя аспекты іх жыцця.

Цікава чытаецца і аповесць "Жывы покліч", якая расказвае пра станаўленне маладой сям'і Васіля і Яніны Грыгарцэвічаў у аднаўленай пасля вайны вёсцы. Шмат карыснага чытачы даведаюцца з апавяданняў "Іста" і "Жыццё-быццё".

Да гэтай кніжкі Алесь Марціновіч напісаў прадмову "Каб быць гаспадаром", у якой падрабязна расказвае біяграфію пісьменніка Генрыха Далідовіча, а таксама пра яго творы, якія адлюстроўваюць складаныя працэсы, што адбываліся ў Беларусі.

Дарэчы, Генрых Вацлававіч на сённяшні дзень выдаў больш як 15 сваіх кніг. Сярод іх — "Дажджы над вёскай", "Цяпло на першацвет", "Маладыя гады", "Міланькі", "На новы парог", "Станаўленне", "Жар кахання", "Кліч роднага звона", раман-трылогія "Гаспадар-камень", "Пабуджаныя", "Свой дом" і інш.

За раман "Заходнікі" Генрых Далідовіч удастоены звання лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Я. Коласа.

Генрых Далідовіч, безумоўна, трывала набыў пачэснае званне "магістра эпічнай прозы", як назваў яго Іван Шамякін. У апошні час у публіцыстычных артыкулах, з якімі выступае пісьменнік у перыядычных выданнях, ён часта ўзнімае пытанне нацыянальнага Адраджэння, духоўнасці. Пісьменнік у росквіце таленту.

Хачу пажадаць Генрыху Далідовічу моцнага здароўя, шчасця і новых творчых набыткаў. Чытачы чакаюць вашых новых кніжак!

Іосіф ПАЖОГА.

1998-мы – ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА

# ЗАКАХАНЫ ГЕНІЙ

У тлумачальных слоўніках можна прачытаць, што геній — чалавек, надзелены самай высокай ступенню творчай адоранасці ў якой-небудзь сферы дзейнасці. Калі ж разважаць пра жыццё геніяльных людзей, лёгка заўважыць уласцівую ім глыбіню пачуццяў, можна нямала гаварыць пра іх закаханасць. Што да паэтаў, то нашчадкам даволі часта вядомыя імёны тых, каго абагаўлялі. І цяпер, праз стагоддзі, мы ведаем, напрыклад, пра ўзвышанае каханне Дантэ да Беатрычэ, Петраркі да Лауры. Наш Адам Міцкевіч адрозніваўся таксама глыбокім пачуццём кахання. Ідэальным у вачах яго душы і зроку відушчага сэрца быў вобраў незабыўнае зямлячкі Марылі Верашчакі.

Калі нечакана яго любая выйшла замуж за графа Ваўжынца Путкамера, паэт адрасаваў ёй з Коўна, дзе тады настаўнічаў, ліст: "Любая Марыля! Я шаную цябе і кахаю, як багіню. Каханне маё такое ж бязвіннае і нябёснае, як і сам яго прадмет... Але я не магу стрымацца ад страшнага хвалявання, калі падумаю, што страціў цябе назаўсёды, што буду толькі сведкам чужога шчасця, што ты забудзеш мяне: часта ў адну і тую ж хвіліну я малю Бога, каб была ты шчаслівая, хоць і забылася пра мяне, і адначасна гатовы закрычаць, каб ты памерла... разам са мной!.. Дарагая, адзіная мая! Ты не бачыш прорвы, над якой мы стаім".

У вершах і санетах закаханага генія, звернутых да Марылі, як і ў працытаваным лісце, выяўляюцца звычайна два полюсы пачуцця: на адным — радасць ад усведамлення таго, што любая была і ёсць на белым свеце, а на другім полюсе пачуцця — натуральная гаркота і шкадаванне, што ён разлучаны з ёю. У санеце "Да Лауры" (такім, на паэтычны лад, імем ён не раз называў у сваёй паэзіі Марылю) чытаем:

**Лёс, людзі супраць нас, вядома, нам на гора.**
**Я знікнуць і кахаць так безнадзейна мушу.**
**Хай шлюб зямны кагось рукой тваёй адорыць,**
**Ты толькі знай, што Бог вянчае нашы душы.**

Шчасцем кахання і драмай расстання прасякнуты ўсе дзесяць чатырохрадкоўяў верша "Да М***". Шмат пра што гавораць і першыя радкі:

**"З воч маіх прэч!" — скажаш, — знікну адразу,**
**"Прэч з майго сэраца!" — і сэрца скарыцца.**
**"Прэч з маёй памяці!" — не, з гэткім сказам**
**Памяці нашай ніяк не змірыцца.**

Зусім відавочна, што каханне Адама Міцкевіча да Марылі было свяшчэнным, святым пачуццём. Але ў сваіх лірычных творах інтымнага характару паэт звяртаецца не толькі да яе, пра што сведчаць і гэтыя вершы.

Васіль ЖУКОВІЧ.

Адам МІЦКЕВІЧ

x x x

**Мне памяць, любая, пра чыстыя пяшчоты**
**Атручваюць развагі маіх, пакут хвіліны!**
**Ах, сэрцайка тваё, што мо трывала кпіны,**
**Падумаць страшна, мо спустошваюць згрызоты!**

**Палалі стрэлы воч тваіх у межах цноты,**
**А вусны міла так смяяліся нявінна.**
**Тваёй няма віны, а я прызнаць павінны:**
**Ўліў Творца шмат агню у нашыя істоты.**

**Змагаліся з сабой, жылі з свабодай згодна,**
**Самотны я і ты, такая маладая!**
**І доўга мы сваю з сабою неслі годнасць...**

**Азёры слёз нясу ў вачах да алтара я,**
**Не ўжабраваць мне прабачэння, верагодна, —**
**Хай толькі Бог тваёй згрызотай не карае.**

**СПАТКАННЕ Ў ЛЕСЕ**

**"Нарэшце! Позна як!.." — "Ды сцежку я ясную**
**Згубіў пры месячным святле, даволі цьмяным!**
**Тужыла, думала ты пра мяне!" — "О мой каханы!**
**Спытай, ці думаць пра каго яшчэ магу я!"**

**"Дай рукі мне, дазволь, я ножкі пацалую.**
**Ты ўся дрыжыш! Чаго!" — "Не знаю, мой жаданы!**
**Шум лісця... птахаў крык... Мне лес начны нязнаны.**
**Ах ёсць віна, што ў лесе мы ў пару начную!"**

**"Мне ў вочы глянь: няма ні ценю ў іх благога.**
**Так смела не глядзіць ніякая трывога.**
**Няўжо віна у тым, што ў лесе ноч застала!**

**Сяджу далёка так і гавару не многа**
**Ды баўлюся з табой, зямным анёлам, мала!**
**Нібыта ўжо нябёсным ты анёлам стала".**

Пераклад з польскай мовы
Васіля ЖУКОВІЧА.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій
і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі
з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях
з суайчыннікамі за рубяжом
(таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект
Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15, 284-76-56,
213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў,
матэрыялы якіх друкуюцца на старонках
«Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана
і аддрукавана ў друкарні
«Беларускі Дом друку».
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 1890.
Падпісана да друку 26. 10. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.